Адам Глобус

# Наш сусед Караткевіч

## Словы пра выбітнага літаратара Уладзіміра Караткевіча

Мінск
Выдавец Раман Цымберау
2025

# 1963. Каменьчыкі

Ад першай сустрэчы з Уладзімірам Караткевічам у мяне застаўся ўспамін пра каменьчыкі з Кактэбеля. Сумна-шэрыя, гладкія, з белымі ніткамі пражылак марскія каменьчыкі паказваў мне дзядзька Валодзя. Ён чакаў захаплення, майго здзіўлення. Іх не было. Мне яго каменьчыкі з Кактэбеля нічога не казалі. Яны ні пра што мне не нагадвалі. Караткевіч спытаў, ці хачу я ўбачыць мора. Вядома, мне цікава было пабачыць і мора, і гарадок Кактэбель, і гару Аюдаг. Толькі каменьчыкі мне не былі патрэбныя. «Сур'ёзны хлопец!» – дзядзька Валодзя гучна засмяяўся. Каменьчыкі засталіся ляжаць на кніжнай паліцы, а я разам з мамай выйшаў з ягонай маленечкай аднапакаёўкі.

## 1963. Пташнікаў і кукішкі

Аднапакаеўка Івана Пташнікава была якраз пад аднапакаеўкай Уладзіміра Караткевіча. Дзядзька Валодзя меў вясёлы характар, а дзядзьку Івана перапаўняла пахмурная сур’ёзнасць. Ён жартаваў, але жарты яго былі нейкія як не з Мінска, былі нібыта прывезеныя аднекуль з-пад Плешчаніц.

«Валодзя, каго з вялікіх беларускіх пісьменнікаў ты ведаеш?» – прысеўшы на кукішкі і гледзячы мне ў вочы, пытаўся Іван Пташнікаў. Пад такім поглядам нічога іншага не заставалася, як толькі сказаць: «Вас, дзядзька Іван, і дзядзьку Валодзю Караткевіча!» Пташнікаў быў задаволены сваім жартам і, уздымаючыся з кукішак, казаў: «Правільна!»

## 1964. Першы подзвіг

Добра, калі герой, якога ты старанна апісваеш, здатны здзейсніць подзвіг. Большасць герояў, апісаных Караткевічам, ішлі і рабілі самаахвярныя подзвігі. Нават у аўтабіяграфіі Уладзімір Караткевіч знайшоў месца для аднаго подзвігу.

«...“Непісьменным” сябе не памятаю. Маці кажа, што чытаць, непрыкметна для іншых, навучыўся ў тры з паловаю гады, а пісаць трохі пазней. І, здаецца, гэта быў першы і апошні мой подзвіг...» – так апісаў класік сваё вундэркіндства ў «Дарозе, якую прайшоў», аўтабіяграфіі, што пісалася ў 1964-м. Наперадзе было дваццаць гадоў жыцця і працы, дваццаць гадоў самаахвярнай працы дзеля літаратуры, дзеля беларусаў і Беларусі, дваццаць гадоў суцэльнага подзвігу.

# 1964. Стральцова і пеньюар

Быў час, калі пісьменнікі з пакалення майго таты сябравалі. Цяжка паверыць, але я сведка таго, што Чыгрынаў, Сачанка, Пташнікаў, Караткевіч, Быкаў, Дамашэвіч, Адамчык, Кудравец, Стральцоў, Наўроцкі сябравалі. Іван Чыгрынаў часта рабіўся аб'ектам розыгрышаў, кпінаў і жартаў. З яго было прыемна жартаваць, бо ён заўсёды бурна рэагаваў. Можна было па некалькі разоў паўтараць адзін і той жа прыкол і атрымліваць чыгрынаўскі крык абурэння.

Усе ў інтэрнаце ведалі, што ложак у Чыгрынава прадаўлены. Каб спаць на ім, Іван засоўваў пад расцягнутую сетку ложка свой вялікі дыктавы чамадан. Уласна кажучы, на чамадане і спаў студэнт Чыгрынаў. Раз на месяц нехта з суседзяў па пакоі Івана (а іх было блізу дзесяці) выцягваў з-пад ложка чамадан. Іван сядаў на свой ложак і правальваўся да падлогі. Тут і пачынаўся бясплатны канцэрт з абяцаннямі ўсіх пазатоптваць, пазабіваць і павыкідаць на сметнік.

Жарт з чамаданам быў прымітыўным, а вось розыгрыш з пеньюарам – вытанчаным і шматхадовым. Неяк жонка Міхася Стральцова набыла сабе напаўпразрысты чырвоны пеньюар.

Пад яго Галіна апранула чорны станік і чорныя майткі. Абулася яна ў чырвоныя туфлікі на высокіх шпільках. Усе былі ў захапленні ад спакушальнага выгляду Галіны Стральцовай. Нехта (ці не Караткевіч?) сказаў, што Люда Чыгрынава паехала з дзецьмі на вёску, Іван сядзіць дома адзін, таму яго можна разыграць. Пачалося хуткае прыдумлянне сцэнарыя…

Галя ў напаўпразрыстым пеньюары прыйшла да самотнага Івана і сказала, што Мішэль пабіў, абразіў і выгнаў яе з дому: яна набыла для мужа гэты шыкоўны пеньюар, а ён, стыляга і бабнік, выгнаў адданую жонку з дому. Расчулены Чыгрынаў пачаў шчыра шкадаваць Галю і накрываць па-святочнаму на стол. Калі стол быў накрыты, Стральцова падышла да акна і запрашальна махнула рукою. Праз хвіліну ў кватэры зніякавелага Вані Чыгрынава ўжо смяяліся сябры: Валодзя Караткевіч, Мішэль Стральцоў, Чэсь Адамчык і Ніна Глобус. Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў роў, абяцаў усіх пазатоптваць, пазабіваць і павыкідаць на сметнік разам з пеньюарам.

## 1965. ДОМ № 7

Наш пяціпавярховы дом № 7 на вуліцы Чарнышэўскага, дзе на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя жыў і Караткевіч, я памятаю выдатна. Толькі вось да суседа Уладзіміра я тады мала прыглядаўся, хоць і жылі мы на адной лесвічнай пляцоўцы. Ён у кватэры пад нумарам 57 , а наша сям'я – пад нумарам 59. А прыглядаўся я мала таму, што ў нашым доме жыло вельмі шмат яркіх і запамінальных асоб, значна ярчэйшых за сціплага і выхаванага маладога літаратара Валодзю Караткевіча – так яго ўсе называлі ў нашым пад'ездзе і доме. Цяпер з усіх жыльцоў дома са шчаслівым нумарам 7 самы папулярны – Караткевіч, а тады былі іншыя папулярныя асобы.

Сям'я танцораў Бабачкіных была настолькі папулярная, што нават ездзіла выступаць за мяжу, а па горадзе тая сям'я лётала на матацыкле «Ява». Уяўляеш, як мяне ўражваў матацыкл?

А яшчэ мяне ўражвалі ногі Мальцінскай. Яна так шырока расстаўляла іх, калі грала на сваёй скрыпцы, што, здавалася, у яе трэсне спадніца. Ногі Мальцінскай я запомніў на ўсё жыццё. Такіх малочна-блакітных ног, што самаўпэўнена стаялі на чыста вымытых дошках нефарбава-

най падлогі, я больш у жыцці не бачыў. Клянуся сваёй патэнцыяй!

Твару Мальцінскай я не памятаю, ён неяк размыўся ў маёй памяці, а вось твар яе таты мне помніцца добра. Твар мудрага знаўцы яўрэйскай мовы і цяпер выразна паглядае на мяне праз свае акуляры і адлегласць у шэсцьдзясят гадоў Хаім Мальцінскі перакладаў з беларускай на ідыш. Перакладаў для часопіса «Савецiш геймланд» апавяданні майго таты і, пэўна, апавяданні Караткевіча. Некалькі тых часопісаў захоўваюцца ў мяне і цяпер, на добры ўспамін пра сям'ю Мальцінскіх. Як захоўваюцца ў мяне і фотакарткі Міхася і Галіны Стральцовых, што таксама жылі ў нашым доме на першым паверсе.

Галя Стральцова лічыла сябе самай прыгожай жанчынай у двары. Я з ёю не спрачаўся, але, зразумела, што самая прыгожая была мая мама. А самым непрыгожым чалавекам у нашым доме быў мужчына з сінім тварам. Недзе на фронце яму твар пабіла порахам. Уся скура была нібыта прыцярушана шэра-сінімі кропкамі-рабацінкамі. Сінятварага мы, дзеці, пабойваліся. Ды што там пабойваліся, мы яго баяліся моцна. Такога жывога нябожчыка сустрэнеш вечарам у пад'ездзе, сам забаішся. А Караткеві-

ча мы не баяліся, нават калі той быў на падпітку, бо ён сам пабойваўся дзяцей, а таму дарыў нам розную драбязу і частаваў цукеркамі «Тузік».

А сусед Антон Алешка нас нічым не частаваў, але мы яго ўсе вельмі паважалі, бо ў яго была форма марскога афіцэра і меўся корцік. Патрымаць у руцэ сапраўдны корцік – мара кожнага хлопчыка. Хіба не? У Язэпа Пушчы корціка не было, але мужнасці мелася на трох мужчын. Ён прайшоў канцэнтрацыйныя лагеры і вярнуўся. Гэта важна – вярнуцца. Хай мне даруюць усе, хто быў расстраляны і хто загінуў за калючым дротам канцэнтрацыйных лагераў, але трэба было вярнуцца і прынесці нашу беларускую ідэю дамоў. Пушча вярнуўся. Жалезны чалавек.

Ніхто ніколі не спытаўся ў мяне пра Язэпа Пушчу. Зрэшты, ніхто ў мяне і пра Анатоля Кашапарава не пытаўся. А ён, безумоўна, самы праслаўлены музыка з нашага дома на вуліцы Чарнышэўскага. Кашапараў спяваў у легендарным складзе «Песняроў». Мільёны слухачоў падпявалі Кашапараву, асаблівай народнай любоўю карысталася песенка пра Волагду, пра дом, пра лісты да каханай. Пра Кашапарава ніхто ў мяне не пытаў мо таму, што я мала магу пра яго расказаць. Хадзіў па нашым двары хлопчык у спартыўных штанах з выцягнутымі каленямі.

Насіў той хлопчык папку з нотамі. Мама ў яго працавала машыністкай. Падпрацоўвала тым, што вечарамі і ў выхадны (тады быў адзін выхадны – нядзеля) перадрукоўвала з рукапісаў апавяданні маладых літаратараў. Друкавала яна і татавы навелы, мусіць, і апавяданні Валодзі Караткевіча друкавала. Дом у нас лічыўся пісьменніцкім, бо пісьменнікаў у ім жыло сапраўды шмат. Авяр'ян Дзеружынскі, Іван Пташнікаў, Георгій Папоў, Алесь Махнач...

Алесь Махнач бараніў Брэсцкую крэпасць, яго там і параніла ў нагу. Ён хадзіў з кавенькай. Махнач і ў школу да нас прыходзіў з кавенькай і распавядаў пра нямецкія агнямёты, ад якіх нават цэгла плавілася і аплывала.

Караткевіч пра агнямёты не распавядаў, але мяне ўсе распытваюць менавіта пра дзядзьку Валодзю. Таму я і расказваю пра людзей, якія жылі побач з Караткевічам. Важна ведаць асяроддзе, кантэкст, у якім жыў і працаваў выбітны літаратар. Я так лічу, бо для мяне важна, што я жыў на адной лесвічнай пляцоўцы з Караткевічам. А вось сам будынак дома № 7 ніякай каштоўнасці не ўяўляе. І калі дом знясуць, я шкадаваць не буду. Больш за тое, узрадуюся, што нарэшце разбурылі крывую халабудзіну, якая была неахайна складзена з крохкіх блокаў.

Столь на апошніх паверхах заўсёды цякла, пэўна, яна і зараз працякае. Якое шкадаванне? А тое, што ў тым нашым доме жылі выбітныя людзі, зусім не апраўдвае такую доўгую прысутнасць гэтай пяціпавярховай развалюхі ў нашым нетрывалым архітэктурным свеце.

## 1965. ДРОБНЫЯ МАНЕТЫ

Раніцай я першы выходзіў з пад’езда. Адзін ішоў у дзіцячы садок. А дзядзька Валодзя прыходзіў у наш пад’езд апошні. Часам ён уздымаўся на наш пяты паверх на чатырох лапах. Ну любіць чалавек хадзіць на руках і нагах адначасова, хочацца яму рачкаваць. Што ў тым такога кепскага? Толькі вось кішэні ў нашых мужчынскіх нагавіцах не разлічаны на тое, што мы будзем хадзіць на ўсіх чатырох сваіх лапах. Калі ідзеш на карачках, металічнае змесціва кішэняў высыпаецца. Таму наш ранішні пад’езд звычайна быў засыпаны дробнымі манеткамі з кішэняў дзядзькі Валодзі. У такія раніцы я багацеў і мая мара – набыць сабе ў краме «Прырода» жоўта-зялёнага папугая – значна набліжалася.

## 1965. «КОФЕ»

У нашым пад'ездзе на сцяне паміж пятым і чацвёртым паверхам з'явіўся надпіс «КОФЕ». Ён быў зроблены цёмна-брунатнай, як падсмажанае зерне кавы, фарбай. Гэта быў першы і адзіны надпіс у нашым пісьменніцкім пад'ездзе. Таму яго заўважылі і пачалі абмяркоўваць.

Уладзімір Караткевіч зладзіў цэлае следства... Хто зрабіў? Калі зрабіў? Чаму зрабіў? Надпіс быў зроблены высока ад падлогі, таму ўсе падумалі на вясёлых сяброў Караткевіча – на акцёра Рамана Філіпава і літкрытыка Уладзіміра Гніламедава. Караткевіч усім даводзіў, што яго сябры напісалі б не «КОФЕ», а «КАВА». «Нават русак Філіпаў напісаў бы "КАВА"». Следства Караткевіча хутка зайшло ў тупік. Пісьменнікі пачалі пасмейвацца з дзядзькі Валодзі, маўляў, сам напісаў, сам следства праводзіць, каб самога сябе не знайсці.

І Караткевіч закрыўдаваў на суседзяў. А гэта кепска, калі суседзі сварацца і крыўдуюць адно на аднаго. Таму сваё следства правяла Мая Махнач. Яна параспытвала дзятву і высветліла, што надпіс, стоячы на табурэтцы, зрабіў першакласнік Юра Яўменаў, каб упрыгожыць наш самы звычайны пад'езд паціпавярховіка. Сам

Юра любіў каву, таму і напісаў смачнае слова. Калі яго тата Аляксей акуратна зафарбаваў надпіс і ў пад'езд вярнулася звычайнасць, усе мы разам з крыўдлівым Караткевічам засумавалі, але аднаўляць надпіс не сталі.

## 1968. Дом, двор і смеццявозка

Цяпер можна пражыць у мінскім шматпавярховым доме гадоў дзесяць і не ведаць у твар усіх суседзяў па лесвічнай пляцоўцы. Наша сталічнае жыццё робіцца ўсё больш замкнёным і нават больш герметычным. Ты існуеш у эгаістычным свеце, і жыццё пад адным дахам мала чым аб'ядноўвае людзей, бо ў нас больш няма ніякай агульнай штодзённай справы.

Калі я з бацькамі жыў на вуліцы Чарнышэўскага ў блочным пяціпавярховіку, дык усіх жыхароў нашай светла-шэрай новенькай хрушчобы аб'ядноўвала цёмна-шэрая смеццявозка. Яна прыязджала ў двор раз на дзень, і мы з вёдрамі, поўнымі розных маляўнічых адкідаў, выстройваліся ў стракатую чаргу. У гэтай чарзе я бачыў найлепшых беларускіх пісьменнікаў – Уладзіміра Караткевіча і Міхася Стральцова, – бачыў там празаіка Івана Пташнікава і паэта з узвышэнцаў Язэпа Пушчу, бачыў драматурга Алеся Махнача і доктара Алешку, быў там і перакладчык Хаім Мальцінскі, і дзіцячы паэт Авяр'ян Дзеружынскі, быў паэт Уладзіслаў Нядзведскі і паэтэса Еўдакія Лось, быў будучы фантаст Дзмітрый Падбярэзскі і будучы спявак з «Песняроў» Анатоль Кашапараў...

Заўсёды нехта з суседзяў спяшаўся на працу – і мне даводзілася выкідаць не толькі сваё, але і чужое смецце. Чаканне смеццявозкі праходзіла весела. Добра запомнілася, што больш за ўсіх весяліўся і весяліў іншых Караткевіч. Мужчынам ён расказваў гучным – на ўвесь двор – голасам салёныя анекдоты. Жанчынам казаў салодкія кампліменты. Дзяцей спрабаваў напужаць нейкімі старымі школьнымі страшылкамі пра вялізнага сабаку з вогненнымі вачыма…

Неўзабаве з пяціпавярховай хрушчобы наша сям'я пераехала ў дзевяціпавярховік са смеццеправодам – і вясёлыя чаканні смеццявозкі засталіся ў мінулым.

## 196... САБАКА

Дзядзька Валодзя любіў сабак. Ён любіў жывёл, як іх зазвычай любяць бяздзетныя людзі. Толькі сабак Валодзя любіў асабліва, бо адзін з іх выратаваў рукапіс аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха»...

Аднойчы ўвечары Караткевіч чытаў сябрам урыўкі з новай аповесці, потым усе пілі і весяліліся, а позна ўначы вярталіся з рэстарацыі ў дом творчасці. Ішлі праз лес. У заснежаным ельніку папка з рукапісам і згубілася. А раніцай вартавы сабака выкапаў з-пад снегу «Дзікае паляванне...».

Нягледзячы на ўсю казачнасць гэтага здарэння, яно цалкам рэальнае. Каб не сабака, беларуская літаратура магла б страціць адну са сваіх найлепшых аповесцей. Але рукапісы такіх твораў не толькі не гараць, але і з-пад снегу выкопваюцца сабакамі. Адно, што не магу сказаць дакладна, дык гэта мянушку сабакі. Колькі ні згадваў, успомніць не змог. А таму назаву яго Сабака Баскервіляў – 2.

## 1970. Прыпынак

У той час кавярняў і рэстаранаў у Мінску было мала, грамадскае харчаванне зводзілася да наяўнасці розных сталовак, таму ў святочныя дні ўсе хадзілі адзін да аднаго ў госці. Загадзя гатаваліся розныя вінегрэты і халадцы, загадзя набываліся спіртное і торт. Цэлая нядзеля сыходзіла на такое некалькісямейнае свята.

Тым разам маіх бацькоў запрасіў да сябе капітан другога рангу Кісялёў. Мы да самай ночы прабалявалі ў маленькай кватэрцы на бульвары Шаўчэнкі. У капітана мелася дзіва тагачаснай тэхнікі – кінапраектар з мультфільмамі на вузенькай плёнцы. Разы са тры пракруціліся «Шпіёнскія страсці».

Дамоў мы вярталіся ў цемрадзі. Стаяў люты мароз. Вуліцы былі пустэльныя і пазасыпаныя глыбокім снегам. Маці ўгаварыла бацьку пайсці на таксовачны прыпынак. Там таўклося шмат людзей. З намі быў пяцігадовы Мірык, і мы ўжо збіраліся ісці на тралейбус, калі з’явіўся Караткевіч. Ён быў у расшпіленым палітоне і вушанцы, якая сядзела на патыліцы. Дзядзька Валодзя шумна ўзрадаваўся выпадковай сустрэчы. Два гады я не бачыў Караткевіча, і ён дзівіўся, як хутка я вырас і якім вялікім стаў Мірык.

Дзядзька Валодзя гучным голасам пачаў угаворваць людзей прапусціць нас без чаргі. Падышла машына, мы селі і паехалі.

«Я ж не такі п’яны, як Караткевіч?» – спытаў тата ў мамы. «Не такі, не такі...» – адказала яна і засмяялася.

## 1973. Шчырасць

У запісах Янкі Брыля, зробленых ім у 1973-м, чытаем: «А цяпер вось, запісваючы пазаўчарашняе, успомніў, як Караткевіч з грубаватай шчырасцю казаў мне нядаўна, што я свой раман дапрацоўкай пасля часопіса зрабіў горшым. Пакуль што не бачу гэтага». Пэўна, Іван Антонавіч Брыль не пабачыў «гэтага» і пазней, бо старанна правіў і перакампаноўваў шмат уласных тэкстаў – і сяды-тады дапрацоўкі і сапраўды не ішлі на карысць. Брылю варта было прыняць заўвагу Караткевіча і не падкрэсліваць яго «грубасці». У такіх выпадках дастаткова сказаць «з прастадушнай шчырасцю»; пагатоў менавіта прастадушнасці ў паводзінах Уладзіміра Караткевіча было сапраўды многа, нават замнога.

## 1973. САД

Атрымаўшы трохпакаёвую кватэру ў доме № 36 па вуліцы Маркса, Караткевіч з бутэлькай каньяку абышоў усіх суседзяў па пад’ездзе. Каб з кожным узяць чарку за знаёмства і наваселле. Дзядзька Валодзя абяцаў пасадзіць у двары цудоўны яблыневы сад, які сам будзе дагледаць, а яблыкі будуць браць усе, хто пажадае. Калі казаць праўду, дык усе ў доме добра ведалі Караткевіча, цудоўна разумелі, што ніякі сад ён не пасадзіць, а яму проста захацелася выпіць каньяку, ды і нагода, як ні паварочвай, выдатная.

# 1976. ЗАХОПЛЕНАСЦЬ

Караткевіча варта лічыць азартным. Ён захапляўся рознымі рэчамі, і ў нейкія моманты захапленне цалкам яго паглынала. Найперш Уладзіміра Караткевіча паглынала творчасць. Ён мог пісаць раман па васямнаццаць гадзін у суткі. Пісаў і спаў, усё астатняе для Караткевіча знікала. Для яго не існавала раніцы і вечара, дня і ночы, існаваў адно толькі твор, які пісаўся з неверагоднай хуткасцю. Усялякія перашкоды адкідаліся, адмяталіся і зніштажаліся.

Апантанасць? Так. Уладзімір Караткевіч быў апантаны стварэннем літаратуры. У гэта лёгка паверыць, калі ведаеш пра побытавыя дробязі ў яго паводзінах. Ну хоць бы збіранне часопісаў з дэтэктывамі. Рэдактары часопісаў, каб добра прадаваць свой папяровы тавар, расцягвалі публікацыю захапляльнага рамана на два, а то і тры нумары. Гэтак дэтэктывы Жоржа Сімянона друкаваліся ў «Нёмане», «Неве» і ў «Вокруг света». Уладзімір Караткевіч ніколі не пачынаў чытаць дэтэктыў, не сабраўшы ўсяго патрэбнага камплекта нумароў. Я перакананы, што яму было б цяжка глядзець шматсерыйныя і шматсезонныя серыялы, бо ён глядзеў бы іх, як і пісаў свае раманы, па васямнаццаць гадзін у суткі.

## 1976. Крэслы

З дома № 68 на вуліцы Апанскага, які стаіць насупраць Кальварыйскіх могілак, мы з бацькамі і братам пераехалі на вуліцу Маркса ў дом № 36. Пасля бруднага пад'езда, што смярдзіць смеццеправодам, мяне парадавала не столькі чысціня новага пад'езда, колькі крэслы на кожнай лесвічнай пляцоўцы. Крэслы паставіў Караткевіч для сваёй старэнькай маці. Тады яшчэ не было кодавых замкоў і дамафонаў, таму крэслы былі намёртва прымацаваны алюмініевым дротам да батарэй. Вось такая ўвага да любімага чалавека застаецца для мяне прыкладам. А пра тое, што больш за ўсіх на свеце Уладзімір Караткевіч любіў сваю маці, скажа кожны, хто яго ведаў.

## 1977. СЛОВА

Была цёплая восень, і я маляваў вялікі нацюрморт з драўляным анёлам. Залацістае палатно стаяла на мальберце. Караткевіч паразглядаў зробленую вялікім пэндзлем фактуру алейнай фарбы і запытаўся: «А ты напішаш пра мяне праўду?» Давялося задумацца. Каб дзядзька Валодзя спытаў у мяне пра свой партрэт на паперы ці кардоне, я б адказаў адразу, але ён пытаўся пра словы. Чаму раптам я павінен расказваць нешта пра яго, чаму я павінен тое запісаць? Караткевіч часта заходзіў да нас на каву, мама варыла яе ў турцы. Зазвычай размовы былі вясёлыя, а тут з'явілася змрочнасць. «Напішу!» – «Ніна, ён сказаў, што напіша пра мяне праўду». – «Сказаў, значыць, зробіць. Наліваю каву...» Вось так паспешліва і неабачліва я даў слова Караткевічу.

У наш час людзі мала верацць у слова, збольшага яны захапляюцца лічбамі, нават кнігі шмат для каго вымяраюцца колькасцю старонак, накладам і атрыманым прыбыткам, нават карціны шмат каму бачацца праз суму сплочанага ганарару. Але маё асабістае назіранне пераконвае ў іншым: чалавек жыў, жыве і жыць будзе словам. Лічба без слова мала чаго вартая.

Вялікія заробкі і прыбыткі атрымліваюць людзі, якія здатныя трымаць сваё слова. Сказаў – зрабіў, паабяцаў – выканаў. Пра такіх кажуць «чалавек на слове», з такімі працуюць, такім вераць. Лічба пераконвае толькі тады, калі за ёю стаіць слова. Таму і працую я са словам, таму і выконваю свае абяцанні, нават калі слова было дадзена неабачліва.

## 1977. ЧАРТАНІЯНА

Караткевіч любіў вадзянікоў, лесавікоў, дамавікоў і чарцей. Нехта з нас любіць жаб, хтосьці паважае гномаў ды ваўкалакаў з пярэваратнямі, камусьці даспадобы сланы, а пісьменнік Уладзімір Караткевіч захапляўся тутэйшымі і суседскімі чарцямі. У яго на кніжных паліцах вышнуравалася цэлае войска з літоўскіх і беларускіх, чэшскіх і польскіх сувенірных чорцікаў. Бачыў Караткевіч і чарцей праўдзівых, тых, што з'яўляюцца да запойных п'янтосаў.

Можна сказаць, што наш дзядзька Валодзя быў вялікім спецыялістам па чарцяках і чартаўшчыне. Таму з-пад ягонага пяра і з'яўляліся розныя казкі пра чорцікаў накшталт хрэстаматыйнай «Чортаў скарб». Кнігу з гэтым «скарбам» ён і падарыў майму малодшаму брату з такім надпісам: «Міламу Міраку Адамчыку ў падзяку за яго цудоўнага чорта з сасновай кары – вось гэтага дару папяровага чорта. Чорт-дзядзька Ўладзімір Караткевіч 7 лістапада 77 г.». Сапраўды ж, нешта было ў Караткевічу ад чорта, ад сапраўднага беларускага чорта.

## 1979. Чорт

Часам, каб надаць размове экспрэсіі, Уладзімір Караткевіч казаў: «Чорт цябе пабірай!» Ён ніколі не прамаўляў звыклае «Чорт цябе задзяры!» ці «Чорт цябе забяры!», у Караткевіча гучала толькі запамінальнае «пабірай». Ад іншых я не чуў гэты выраз у такім выглядзе, а таму аднойчы спытаў у дзядзькі Валодзі: «Чаму “пабірай”, а не “задзяры” ці “забяры”?» І Караткевіч запэўніў мяне, што «Чорт цябе пабірай!» – гэта менавіта па-беларуску.

Дарэчы, свой дэтэктыўны раман «Чорны замак Альшанскі» Караткевіч пачынае так: «З чаго мне, чорт пабірай, пачаць? З таго прадвесня, калі за акном было сутонне і мокры снег?..» Сапраўды, усё гэта так па-беларуску, асабліва пра сутонне і мокры снег.

## 1978. Хаты

Пры жыцці Караткевічу недадалі павагі, славы і вядомасці, якіх ён, безумоўна, заслугоўваў. Бывае, задумаюся: чаму так здарылася? Якую памылку зрабіў Уладзімір Караткевіч, што папярэднікі ды раўналеткі залічылі яго ў шэрагі дзіцячых пісьменнікаў і не падпускалі да вялікіх прэмій, узнагарод і званняў? І згадаю папрок, які аднойчы зрабіў яму рэдактар з часопіса «Маладосць». Ён сказаў, што параўнанне Уладзіміра Сямёнавіча «хаты, як кучы гною» абразлівае.

Быў час, калі Беларуссю кіравалі людзі з вёсак, людзі з хат. Тады назвы кніжак Міхася Стральцова «Сена на асфальце» і Янкі Сіпакова «Усе мы з хат» прымаліся за выдатны ўзор. Раптам ад Караткевіча былыя хутаранцы, вяскоўцы і местачкоўцы атрымалі замест сваёй роднай і любімай хаты кучу гною. Такое не даруюць, помняць усё жыццё, за такую абразу помсцяць. Зразумела, кожны сапраўдны пісьменнік сутыкаецца з помстай. Таленту не даруюць тое, што ён талент. Таму знаходзіцца нагода для помсты.

Самае цікавае ў гэтай гісторыі тое, што рэдактар выкрасліў гэтае параўнанне з твора Караткевіча, але плётка пра яго засталася, каб помсціць, каб недадаваць, каб не дапускаць і не шанаваць.

## 1979. Правал

Ён сядзіць на лаўцы каля пад’езда. Ён смокча, пасмоктвае патухлую беламорыну. Ён сядзіць, праваліўшыся ў самога сябе. Мяне ўражвае гэты правал у самога сябе. Я спыняюся, каб сказаць, што днямі вярну яму драўлянага баракальнага анёла, якога пазычаў, каб намаляваць. Ён пытаецца, ці атрымаўся анёл і ці пакажу я малюнкі. Голас яго гучыць хрыпла, патухла, нібыта здалёк. Ён застаецца ў правале.

## 1977. Міцкевіч і Колас

Я задумаў і напісаў партрэт Якуба Коласа. Выбраў стыль – гіперрэалізм. Калі я заканчваў працу, да майго суседа Уладзіміра Караткевіча прыйшоў у госці сын Коласа – Даніла. Караткевічу партрэт падабаўся, таму ён і ўгаварыў Данілу ацаніць выяву бацькі.

Даніла Міцкевіч доўга разглядаў партрэт, а потым сказаў, што Колас атрымаўся нейкі злосны, а ўсё гэта з-за вялікай колькасці зморшчынак на шчацэ, якія я так старанна перамалёўваў з фотакарткі. Караткевіч спрабаваў бараніць мой твор, спасылаючыся на яго вялікае падабенства да фотаздымка. Але Даніла сказаў, што бацька яго быў вельмі добрым і чуллівым чалавекам, а не такім злым і зацятым, як на маім партрэце.

Караткевіча моцна закранула адмоўная думка Данілы пра партрэт, бо дзядзька Валодзя заўсёды перажываў, калі з ім не пагаджаліся. А мяне меркаванне Данілы не пакрыўдзіла зусім. Бо Колас быў чалавекам зацятым і моцным, а не чуллівым, як казаў тады Даніла. І галоўнае: я яшчэ не скончыў партрэт, я яшчэ не схадзіў у краму і не купіў пакет лаўровага ліста і не зрабіў вянок на галаве ў фота-гіпер-калоса-Коласа...

# 1987. Хоку

Уладзіміра Караткевіча па-сапраўднаму захаплялі і хвалявалі тры рэчы: літаратура, гісторыя і алкаголь. Я быў для яго кепскім сабутэльнікам. Розніца ва ўзросце не дазваляла нам разам напівацца. Таму большасць нашых размоў прайшлі за каваю, і былі яны пра гісторыю і літаратуру. Пераказваць тыя даўнія размовы мне цяпер цяжка, бо шмат часу прайшло і большасць слоў пазабывалася, але нешта помніцца выразна. Напрыклад, нечакана згадаўся мне любімы японскі верш дзядзькі Валодзі, які ён чытаў мне шматкроць, бо прапаноўваў браць яго за ўзор. Гэта хоку Ціё з Кага. Верш таленавітай паэтэсы са школы Басё. Яна рана страціла мужа і дзіцця, хлопчыка, пасля чаго пастрыглася ў манахіні і прысвяціла сябе паэзіі. Ціё пісала празрыстую лірыку пра адзіноту, пра свае страты і мары… Караткевіч чытаў мне хоку пра страказу над вадой:

Па-над ручаём
ловіць, ловіць страказа
свой уласны цень…

Ён чытаў мне пераклад, зроблены Верай Маркавай, на рускую мову:

Над волной ручья
Ловит, ловит стрекоза
Собственную тень…

Дзядзька Валодзя чытаў і цытаваў мне шмат розных вясёлых і пафасных вершаў, але глыбей за ўсё мяне закранула трохрадкоўе пра цень страказы на вадзе.

## 1987. «Ногі...»

Некаторыя з нас моцна стамляюцца за жыццё. Вядома, стамляюцца ўсе, але той, хто працаваў за траіх, стамляецца значна болей. Караткевіч заўсёды працаваў шмат. Таму ў свае пяцьдзясят выглядаў на ўсе шэсцьдзясят. Раніцай ён мог пазваніць у дзверы нашай кватэры і папрасіць маю маці зварыць вялікі кубак чорнай кавы. Маці варыла. Караткевіч закурваў папяросу, дыміў і скардзіўся на стомленасць. Выпіўшы каву і падзякаваўшы, ён казаў: «Ногі, мае ногі, нясіце маю сраку!» Маці смяялася, смяяўся Караткевіч. Смех яго нават маладзіў.

## 1980. Лякарня

Калі запой ў дзядзькі Валодзі доўжыўся больш за тры месяцы, калі ён падаў на кніжныя паліцы і рэзаўся аб пабітае шкло, калі мне з братам даводзілася выцягваць Караткевіча з-за пабітага ўнітаза і адмываць ад крыві, тады ўжо прымалася рашэнне наконт лякарні. Выклікалася Света Капылоўская, якая працавала загадчыцай працэдурнага кабінета ў псіхіятрычнай клініцы, што ў вёсцы Навінкі. Свеце Караткевіч верыў. Света і ўгаворвала дзядзьку Валодзю паляжаць у светлай палаце, адпачыць і паправіць здароўе. Не ведаю, якімі такімі словамі Света пераконвала Караткевіча, але ён пагаджаўся на падарожжа ў лякарню. Дзядзька, вядома ж, хваляваўся, каб ніхто не прачуў пра вандроўку ў Навінкі. Ніхто і не чуў, а калі і чуў, дык пра тое маўчаў. А цяпер? Цяпер дзядзьку Валодзю гэта ўжо не хвалюе.

## 1987. Чорны перац

«Валодзя, кавы хочаш?» – пытаецца ў мяне Уладзімір Караткевіч, стоячы пасярод лесвічнай пляцоўкі. Каву я люблю. І праз хвіліну сяджу ва ўтульнай, абвешанай дэкаратыўнымі талеркамі кухні. Караткевіч, не шкадуючы, засыпае каву ў турку. Бярэ дзве гарошыны чорнага перцу. Рэжа іх напалам і кідае ў напой.

Каву з перцам па-караткевіцку я гатую сабе ўжо гадоў сорак і добрым словам згадваю кухара – дзядзьку Валодзю.

## 1987. Жыдліцкі

Перакладчык беларускай літаратуры на чэшскую мову Вацлаў Жыдліцкі запрасіў у Прагу Уладзіміра Караткевіча. У Чэхіі выйшаў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Караткевіч узяў у падарожжа жонку Валянціну, каб распусціць у Празе заробленыя літаратурай кроны. Жыдліцкі паспрыяў таму, каб Караткевічы атрымалі ганарар у Чэхіі і там яго і патрацілі. Валянціна Браніславаўна з захапленнем распавядала пра сваё падарожжа, але адзін эпізод яе моцна напружыў.

Разам з Жыдліцкім пара Караткевічаў ехала ў поўным тралейбусе. Нейкі пасажыр крыху зачапіў Вацлава. З кім не бывае. Поўны тралейбус. Але Вацлаў адразу змяніўся ў твары. Зрабіўся злы. Пачаў лаяцца на пасажыра гучна і брудна. Той выбачаўся. Пазней Жыдліцкі тлумачыў сваю агрэсію тым, што зачапіў яго не чалавек, а славак. Ён назваў славака горшым за жывёліну. Стаўленне чэха да славака як да раба і здзівіла Валянціну Браніславаўну.

Ад Уладзіміра Караткевіча я пра агрэсію Жыдліцкага не чуў, яно і зразумела. Хто ж гэта будзе ганіць свайго адзінага перакладчыка на вялікую чэшскую мову.

## 1987. Быкаў і Мехаў

Уладзімір Караткевіч і Васіль Быкаў пароснаму бачылі сябе ў літаратурным працэсе. Быкаў уяўляў сябе гэткім самотным дубамволатам у бязмежным полі. На сустрэчах з чытачамі ён падкрэсліваў гэтую самотнасць, казаў, што пісьменнік мусіць быць адзінокім і сам ён не бачыць у наступных пакаленнях паслядоўнікаў і вучняў. Караткевіч, пры ўсёй амбіцыйнасці, не забываўся сказаць добрае слова пра сяброў і калег. На дурнаватае пытанне: «Калі раптам вас не стане, дарагі Уладзімір Сямёнавіч, хто будзе пісаць беларускую гістарычную прозу?» – Караткевіч заўсміхаўся і адказаў: «Я магу нават сёння спакойна памерці, бо наш паважаны Уладзімір Мехаў піша выдатную прозу на гістарычныя тэмы». Ці была ў адказе Караткевіча іронія? Думаю, што не было, ён і сапраўды высока цаніў кнігі Мехава.

# 1987. Старажытны свет

Караткевіч любіў парадак. Навядзенне парадку выяўляла лішнія рэчы, часопісы і кнігі. На лішніх кнігах Караткевіч рабіў надпісы і раздорваў сябрам і знаёмым. Так да мяне патрапіла некалькі альбомаў па мастацтве. На адным з іх быў надпіс: «УА і УК і мастацтва краін Магрыба, глядзіш, і зачаруюць свет. Уладзімір, 31 лістапада 80 г.». УА – Уладзімір Адамчык, УК – Уладзімір Караткевіч. Мастацтва Магрыба згадвалася, бо альбом быў якраз яму і прысвечаны.

Наследуючы традыцыі, запачаткаванай Караткевічам, я таксама люблю наводзіць парадак у сваім кнігазборы. Нешта з кніжак я дару людзям, з якімі таварышую. «Искусство стран Магриба. Древний мир» я падараваў Уладзіміру Арлову, які захапляецца старажытнасцю і страшэнна любіць творчасць Караткевіча, з якім так і не паспеў пазнаёміцца. Дарэчы, разам з альбомам я прапанаваў Арлову і легенду, згодна з якой ён стане казаць, што УА на тытульнай старонцы не Уладзімір Адамчык, а Уладзімір Арлоў.

Доўгі час Арлоў захоўваў падарунак у сябе, а потым перадаў яго ў фонд Музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны. (Ці

карыстаўся Арлоў легендай? Не ведаю…) У фондзе аўтограф Караткевіча сфатаграфавалі і перадалі ў выдавецтва «Мастацкая літаратура», якое надрукавала яго ў 18-м томе збора твораў пісьменніка пад нумарам 1.8. Ніякіх каментарыяў да аўтографа няма, але ёсць подпіс: «Мал. 1.8. Экслібрыс У. Караткевіча. 1980 г.». Экслібрысам у подпісе назвалі бібліятэчную пячатку, якую я паставіў побач з аўтографам. Дарэчы, пячатку тую выразаў і падараваў мне брат Міраслаў. Калі папрыглядацца да яе ўважліва, то можна пабачыць літару «А». Спадзяюся, што ў адным з наступных тамоў збора твораў Караткевіча з'явіцца невялічкі каментарый пра памылкі, зробленыя на 11-й старонцы ў 18-м томе.

## 17.8... Дэтэктывы

«Дэтэктывы я пішу для жонкі!» – безапеляцыйна заяўляў дзядзька Валодзя. Тое было праўдай. Цётка Валя жыць не магла без дэтэктываў. Чытала яна іх па-польску, запойна чытала. Яе пакой – яна яго называла «бярлог» – быў спрэс пазастаўляны-пазакладзены маленькімі чарнавокладачнымі кніжачкамі польскамоўных «дзюдзікаў».

«Чорны замак Альшанскі» Караткевіч напісаў для сваёй любімай Валькі, як ён яе называў. Калі ў кнігарнях пачалі выстройвацца чэргі за «Чорным замкам...», дзядзька Валодзя шчыра дзівіўся. У той час пісанне дэтэктываў лічылася малапрэстыжным заняткам, нават крыху сараматнай справай. Усе чыталі, усе любілі раманы і аповесці з вострым сюжэтам і крымінальнай інтрыгай, але да літаратараў-дэтэктыўшчыкаў ставіліся грэбліва. Таму цётка Валя, пачуўшы гутарку пра Караткевіча і «нізкі» жанр, ганарліва ўздымала галаву і казала: «Я ўгаварыла Валодзю, і ён напісаў «Чорны замак Альшанскі» для мяне! Ён – мой рыцар, ён падарыў мне замак!»

## 1987. ПЛЯШКА ГАРЭЛКІ

Дзядзька Валодзя піў, і піў моцна, па тры месяцы не выходзіў з запою. Каб так піць, патрабавалася падрыхтоўка, патрабаваўся запас алкаголю. Караткевіч быў найвялікшым майстрам назапашваць і хаваць бутэлькі. Дзе ён іх толькі не прыхоўваў! І ў кватэры, і ў пад'ездзе, і ў мяне... Можаш мяне асудзіць! Так, я хаваў бутэлькі дзядзькі Валодзі. Часам я хадзіў па гарэлку і каньяк для яго. Ён прасіў, бо сам баяўся не дайсці, баяўся паваліцца на вуліцы, – даводзілася ісці мне. І я чхаць хацеў на твае асуджэнні. Вось так!

Але не пра запоі я хачу распавесці, а пра спрэчку. Цётка Валя неяк паспрачалася са сваім мужам Караткевічам на пяцьдзясят рублёў. Яна сказала, што схавае ў кватэры бутэльку белай, а Валодзя яе не знойдзе. Цётка схавала бутэльку і з'ехала на тыдзень.

Караткевіч перавярнуў кватэру, а белую не адшукаў. Перажываў ён моцна, асабліва пасля таго як Валя паказала яму схаваную пляшку. Тая стаяла паміж аконных рам, проста за шклом. Этыкетку Валя змыла і корак акуратна зняла, пакінуўшы адно цэлафанаваю плеўку ад яго. Бутэлька празрыстая, гарэлка празрыстая,

шыбы празрыстыя. Усе гэтыя празрыстасці і зліліся ў адну амаль незаўважную празрыстасць каля працоўнага пісьмовага стала літаратара Караткевіча.

# 1980. Танк

З красавіка 1980 года Максім Танк запісаў у дзённік: «Прыехаў з Прагі рэдактар Каміль Рыбак. Крыху пасядзелі з ім у кафэ. Бяда толькі, што У. Караткевіч, які толькі што выпісаўся з бальніцы, пасля пары чарак каньяку ахмялеў. А піць яму нельга. Пачаў нешта плясці пра развод з жонкай, пра тое, што хоча размяняць сваю кватэру, і г. д.». Праўда ў тым, што Караткевіч піў, а піць яму было нельга, бо сыходзіў у доўгія запоі. Пра размен кватэры, як і пра развод са сваёй Валянцінай Браніславаўнай, дзядзька Валодзя мог сказаць толькі ў п'яным чадзе. У такім каньячным чадзе ён часцяком лаяўся ў тэлефонную слухаўку, крычаў на ўвесь пад'езд, каб усе пакінулі яго ў спакоі, каб далі спакойна памерці. Танк, які паўжыцця празаймаўся дзяльбою кватэр, занадта сур'ёзна ўспрыняў словы ахмялелага Караткевіча. Для Максіма Танка жонка Любаша была ідэалам, які не абмяркоўваецца ў п'янай мужчынскай кампаніі. Пэўна, таму Яўген Іванавіч так абурыўся паводзінамі Караткевіча і ягонымі словамі пра развод.

## 1980. Выказванне

Думалася, што мне запомняцца доўгія размовы з дзядзькам Караткевічам пра паўстанцаў Каліноўскага, пра тое, як катавалі змагароў за Беларусь, пра тое, як Караткевіч не хацеў тыя пакуты і катаванні апісваць, як збіраў факты пра павешанне, якім пакаралі Каліноўскага... Канечне, усё тое і запомнілася, і неяк пазапісвалася, але больш выразна мне чуецца стомлены голас ахмялелага дзядзькі Валодзі з заўсёдным выказваннем: «Ногі, мае ногі, нясіце маю сраку!»

## 1981. Сеткі з бульбай

Толькі адзін беларускі пісьменнік моцна любіў цалаваць і ўвесь час цалаваў жаночыя ручкі. Ён прыкладаўся вуснамі да жаночых ручак і пальчыкаў заўсёды, калі толькі мог. Я не люблю цалаваць жаночыя рукі і не люблю дарыць жанчынам букеты і вянкі, а таму мне заўсёды было няёмка стаяць побач, калі Уладзімір Караткевіч нахіляўся да жаночай рукі. Ён нахіляўся, а я стаяў і перапаўняўся няёмкасцю. Я стаяў, і не нахіляўся, і не цалаваў, бо не бачыў у такіх пацалунках нічога пяшчотнага, вытанчанага і арыстакратычнага. Пустая гульня, нават крыху пашлаватая.

Такая пашлаватасць пацалункаў жаночых ручак і абмяркоўвалася аднойчы з рэстаўратарам Уладзімірам Ракіцкім. Ён згадаў, як Уладзімір Караткевіч, ідучы з крамы, сустрэў нейкую жанчыну паважанага веку. У руках Караткевіча была сетка з бульбай. Караткевіч нахіліўся да жаночай рукі і пацалаваў яе. У жаночай руцэ была таксама сетка з бульбай. Выглядала так, што дзядзька Валодзя цалуе не толькі рукі, але і сетку з бульбай. Які тут арыстакратызм? Якая вытанчанасць? Якая рамантыка? Звычайная беларушчына.

## 1981. Хованкі

У нашай сям'і мужчыны калі і выпівалі, дык рабілі тое не хаваючыся. Дзед Валодзя прывозіў на ровары з мястэчка Наваельня сямісотграмовую бутэльку віна і ставіў яе на сярэдзіну стала. Тата, калі прыносіў гарэлку з крамы, гэтаксама адразу ставіў яе на стол. Недапітая бутэлька з гарэлкай заўсёды стаяла ў нашай лядоўні.

Караткевіч жа піў таемна. Ён мог зранку запрасіць мяне на каву, усадзіць на кухні, наліць той кавы цэлы двухсотграмовы кубак і сысці ў кабінет. Адтуль дзядзька Валодзя вяртаўся з падарункам. Колькі кніжак па мастацтве ён мне перадарыў, каб таемна выпіць сваю шклянку каньяку. Выпіць хутка гарачую каву ў мяне не атрымлівалася. І мы хвілін дваццаць сядзелі на кухні, і дзядзька Валодзя распавядаў розныя гісторыі пра сваю маладосць. Як і кожны літаратар, ён збольшага пераказваў напісаныя творы. Пэўна, таму мне падабаецца раман Караткевіча «Нельга забыць», гісторыя пра каханне. Калі мужчыны расказваюць мне пра сваё драматычнае каханне, я ім веру больш, чым жанчынам з іх аповедамі пра любоў, здрады і нянавісць, бо мужчыны робяць тое зусім не часта, можа, толькі пасля таемнай шклянкі каньяку.

У літаратурных колах хадзіла паданне пра тое, як пісьменнік Аляксей Карпюк вyратаваў літаратара Караткевіча. Здарылася тое ў Маскве, у інтэрнаце Літаратурнага інстытута. П'яны Караткевіч збіраўся выкінуцца з акна, а Карпюк, пабачыўшы яго на падваконні, схапіў і зацягнуў у пакой. Аляксей Карпюк сцвярджаў, што Караткевіч хацеў развітацца з жыццём з-за гарэлкі. Карпюк, які ствараў таварыствы цвярозасці, нічога іншага і сказаць не мог. А я думаю, што калі ў Караткевіча і быў намер развітацца з жыццём, скочыўшы з шостага паверха, дык толькі з-за кахання. Як тое было насамрэч, я ўжо ніколі не даведаюся, але варта аддаць належнае Аляксею Карпюку, які ў ракавую хвіліну паспеў падтрымаць дзядзьку Валодзю.

# 1981. Парады

Аднойчы, прачытаўшы мае пачаткоўскія вершы, Уладзімір Караткевіч сказаў: «Ніколі не пішы ў п’яным стане». І я не напісаў ніводнага нецвярозага радка. Гэтую параду я выконваў і выконваю.

А вось другую яшчэ трымаю на запас. «Надыдзе дзень, калі ты не зможаш напісаць ні радка: ні прозы, ні вершаў, ні крытыкі... Тады сядай і пішы фантастыку. У цябе можа атрымацца фантастыка», – раіў дзядзька Валодзя. Я ж уласна фантастыку так ні разу і не пісаў. Казкі пісаў. Фантастыка чакае свайго часу.

## 17.81. Швейкі

У Караткевіча было вялікае пачуццё гумару. Што для беларускага літаратара даволі нехарактэрна. Прычым гумару тонкага, іранічнага, шматхадовага. Караткевіч мог выбудоўваць камбінацыю, інтрыгаваць. І з ім, канечне, цікава было, заўсёды. Ён ведаў шмат жартаў, любіў жартаваць. Ён зачытваўся Яраславам Гашакам, Карэлам Чапекам. Збіраў лялькі. У яго адных Швейкаў было штук пяцьдзясят.

## 1781. Цацкі

«Я – беларускі Аляксандр Дзюма!» – любіў сказаць пра сябе Уладзімір Караткевіч. Не ведаю, з кім сябе параўноўваў аўтар рамана «Тры мушкецёры», як і нічога не ведаю пра ягоны ложак, а вось пра ложак Караткевіча я ведаю. Дзіўны ложак, бо ўвесь ён быў пазастаўляны цацкамі. Караткевіч усё жыццё праспаў з цацачнымі мядзведзікамі. Каля таго ложка стаялі паліцы з кнігамі, і кнігі на іх былі збольшага для дзяцей і падлеткаў. Караткевіч чытаў Уілкі Колінза, Уільяма Хогарта, Артура Конан Дойла, Вальтэра Скота і Аляксандра Дзюма, зразумела.

## 1982. Мої першы зборнік вершаў

Дзядзька Валодзя дапамагаў мне стаць афіцыйным паэтам. Ён напісаў рэцэнзію на першы рукапіс майго зборніка пад непаэтычнай назвай «10×10». Адзіная вартасць тых вершаў, што пісаліся яны па-беларуску. Караткевіч знайшоў у іх яшчэ некалькі станоўчых якасцей.

## 1982. Стадыён

На самым пачатку 1980-х футбольная каманда «Дынама-Мінск» добра гуляла. Нават выйграла чэмпіянат СССР. Калі каманда перамагае, яна збірае поўны стадыён і ён гудзе. Хваляванне і гул мінскага стадыёна «Дынама» ўражвалі па-сапраўднаму. Якраз у той час я жыў побач са стадыёнам, на вуліцы Карла Маркса, і, стоячы на гаўбцы, мог курыць ды слухаць гудзенне, крыкі і авацыі футбольных заўзятараў. На суседнім гаўбцы курыў папяросу Уладзімір Караткевіч, якому я перадаў свой першы зборнік вершаў «10×10». Зборніку пашанцавала з першым чытачом і крытыкам. Прачытаўшы мае паэтычныя эцюды, Уладзімір Сямёнавіч вярнуў зборнік з водгукам і жартоўным вершам пра стадыён, які мы разам слухалі, курачы на гаўбцах папяросы:

*Геніяльнае наследаванне А. Глобусу*

Начны – у пражэктарах – стадыён
Рыкаў
І неба бароў кулакамі
Кучаравых і лысых галоў.

*Ул. Караткевіч*
*26 сакавіка 82 г. 20 г. 48 хвілін 39 секунд*

Добра, што ў гісторыі беларускага футбола ёсць яшчэ і верш Караткевіча, прысвечаны паэту з псеўданімам, круглым, як мяч.

## 1782. АКУТАГАВА І ТРУП

Караткевіч ганарыўся сваімі шырокімі поглядамі на літаратуру і эстэтыку. «Я ўсё магу прыняць, што робіцца ў літаратуры. Пошукі, эксперыменты, традыцыю і авангард. Але ёсць рэчы, якія і я не разумею. Тваё захапленне японскай лірычнай мініяцюрай блізкае і мне. Хоку Басё і мяне заўжды хвалявалі, але сказ, напісаны іншым японцам пра чалавечы тлушч, я не прымаю. Не разумею, як можна пісаць, што ў трупа пад скурай ляжаў прыгожы жоўты тлушч. Каб Акутагава напісаў, што пад скурай трупа ляжаў тлушч прыгожага жоўтага колеру, я пастараўся б яго зразумець...» – разважаў Караткевіч пра фрагмент тэксту «Труп» з твора Акутагавы «Жыццё ідыёта».

Той фрагмент пачынаецца так: «У трупаў на вялікім пальцы целяпалася на дроце бірка. На бірцы пазначаліся імя і ўзрост. Яго прыяцель нахіліўся і спрытна працаваў скальпелем, разразаў скуру на твары аднаго з трупаў. Пад скурай ляжаў прыгожы жоўты тлушч...» Заканчваецца фрагмент наступным чынам: «Апошнім часам трупаў не хапае, – сказаў прыяцель. Тады неяк сам сабою ў яго склаўся адказ: “Калі б мне не хапала трупаў, я без усялякай зламыснасці

здзейсніў бы забойства". Але, зразумела, гэты адказ застаўся нявыказаным».

Пра забойства без злосці Караткевіч нічога не казаў. Ён абмежаваўся развагамі пра эстэтычнае, пра этыку прамаўчаў. Было зразумела: на забойства чалавека дзеля поспеху ў літаратурнай творчасці Уладзімір Караткевіч ніколі не пойдзе. Нават у думках дзядзька Валодзя не мог дапусціць такіх паводзінаў, пра якія пісаў хворы і шалёны Акутагава Руноскэ: «Ён глядзеў на гэты труп. Гэта яму патрэбна было для навелы – той навелы, дзе падзеі разгортваліся на фоне старажытных часоў. Трупны смурод, падобны да пахаў гнілых абрыкосаў, быў непрыемны. Яго сябрук спахмурнеў і марудна працаваў скальпелем...»

# 1782. Раман

Як ужо казаў раней, я захапляюся раманам Караткевіча «Нельга забыць». Таму што гэта раман пра каханне, пра рэальнае каханне.

Раман, у якім Караткевіч спрабуе стаць пісьменнікам найвышэйшага гатунку. Гэтая спроба... Я наогул люблю ў літаратуры такія спробы. Мне як творцу больш цікавыя правалы літаратараў, чым іх дасягненні. Дасягненне заўсёды невядома як зроблена. А калі чалавек не дасягнуў... Мэта ў Караткевіча была большая, чым ён мог зрабіць. І я гаварыў пра гэта з Караткевічам і сказаў, што з задавальненнем прачытаў раман і ён мне вельмі спадабаўся. На што дзядзька Валодзя адказаў: «Ведаеш, я рады, што ты цэніш маю творчасць. Але я скептычна да сябе як да творцы стаўлюся. І ты заўсёды мусіш ставіцца да сябе скептычна. І калі ты бачыш, што не можаш нечага зрабіць, то заніжай планку. Не можаш напісаць выразнае, рэалістычнае – пішы казачнае. І сілы будуць увесь час цябе пакідаць. Ты будзеш жыць – і сіл будзе ўсё менш і менш. Менш імпэту будзе заставацца. І калі сілы зусім скончацца нават на дэтэктывы інтрыгу будаваць, матывацыі прыдумляць – пішы фантастыку ці казкі. Пішы лёгка. Пішы шмат».

## 1982. АРХІЎ

Большасць людзей не рыхтуецца да смерці, яны адкладаюць і адкладаюць тую сумную падрыхтоўку. Пісьменнікі не выключэнне, а большасць з іх яшчэ і спадзяецца на ўдзячных нашчадкаў, якія ўсё ўпарадкуюць і даробяць. Марныя спадзевы. Вось Караткевіч ні на каго не спадзяваўся: сам спарадкаваў усе свае паперы і перадаў у літаратурны архіў.

## 1982. Таямніцы

Слава – жанчына капрызлівая. Дай ёй толькі дробны матыў для крыўды – і яна ўцячэ. А матываў для крыўдаў процьма, нават пачынаць пералічваць не варта. Літаратар Караткевіч хутка набыў вядомасць. Адпаведна, цікаўнасць публікі да яго персоны рэзка ўзрасла. Публіка патрабавала ад пісьменніка прымітыўнага і шэрага жыцця. Гэта поўная лухта, што публіка можа дараваць вядомаму чалавеку незвычайныя паводзіны. Яна нават элементарнага запойнага п’янства не даруе. Таму ўсе блізкія да Караткевіча людзі старанна хавалі яго загану – запойнае п’янства. Зрэшты, а нашто народу было ведаць пра спустошанасць і слабасць жывога героя? Нікога ж не цікавіць, якімі намаганнямі і якімі высілкамі заваёўвалася гэтая вядомасць.

## 1982. Казкі

«Лягу ў бальніцу і напішу некалькі казак пра скарбы і чарцей. Валодзя, чаму ў бальніцы мне хочацца пісаць казкі? Амаль усе свае казкі я напісаў, лежычы ў бальнічным ложку...» Чаму дзядзька Валодзя пісаў у лякарні менавіта казкі, я не ведаў, не ведаю і цяпер.

## 1983. Страшная казка

Доўгі час беларускую літаратуру стваралі выхадцы з вёсак. Вясковасць і беларускасць сталі ледзь не сінонімамі, таму патомны гараджанін Уладзімір Караткевіч у літаратурным асяроддзі адчуваў пэўную няўтульнасць са сваёй шляхетнасцю і сталічнасцю. На мой розум, творца і мусіць адчуваць няўтульнасць у прафесійным асяроддзі. Калі ты не такі, як большасць, тады і маеш шанц дадаць у асяроддзе нешта новае, адметнае, непаўторнае. Дзякуючы Караткевічу ў нашым кніжным свеце пачаў з'яўляцца сталічны бляск. Пра сталічнасць і правінцыйнасць я шмат разоў размаўляў з Уладзімірам Сямёнавічам. Ён, як і я, любіў і цаніў гарадскі дзіцячы фальклор з Чорнай рукой і Белай прасцінай, Труной на колцах і Чырвонай плямінай… Пасля тых размоў пра сталічнасць і урбанізм у літаратурнай спадчыне Уладзіміра Караткевіча з'явілася ахвяраваная мне казка:

***Чорная часіна***
*(Страшная казка)*

Чорная мара
Чорнай гадзінай
У чорнай імшары
Мы заблудзілі.

Што чорныя стрэхі,
Чорныя дахі? —
Тут чорныя духі,
Чорныя страхі,
У хатцы чорнай,
У чорным пакоі
На чорным стале
Штось чарнее такое
У чорнай труне
(Найчарнейшы канец!)
Там чорны-найчорны ляжыць…
……………………
Селядзец!!!

P. S. Да Чорнага селядца я дадам яшчэ пару слоў пра няўтульнасць… Доўгі час большасць нашай літаратуры стваралася філолагамі і журналістамі, і мне, мастаку, было крыху няўтульна ў асяроддзі, дзе «хлёпцы» з дзяўчатамі спрачаюцца пра напісанне слова і месца працяжніка ў сказе.

## 1983. Карыкатурнасць

У маладога пісьменніка Уладзіміра Караткевіча была карыкатурная знешнасць. У сваім чорным берэце ён выглядаў як выдатна прарысаваная карыкатура на моднага літаратара. Паступова яго карыкатурнасць адшліфавалася ў кананічнасць. А раўналеткі Караткевіча, якія некалі выдавалі сябе за традыцыяналістаў і класікаў беларускай літаратуры, цяпер выглядаюць пачварнымі, выцвілымі, вартымі жалю карыкатурамі.

## 178... БАРАДУЛІН

Ці бывае сяброўства раўназначным? Пэўна, не... Да такой высновы прыходжу, згадваючы ўзаемаадносіны Караткевіча і Барадуліна.

«Валодзечка, Валодзечка, Валодзечка...» – чулася ад Барадуліна. «Грышка, чорт цябе пабірай!!!» – у адказ гыркатаў Караткевіч. Праз санчапансаўскае прыніжэнне Барадулін знаходзіў сяброўства і з Броўкам, і з Быкавым, і з Караткевічам...

Пра Рыгора Барадуліна я б наогул не згадваў, каб ён са свайго донкіхоцкага Валодзечкі аднойчы не зрабіў дурня. Больш за тое, сярод дурняў апынуўся не толькі Караткевіч, але і я разам з ім.

Дзядзька Валодзя напісаў прадмову да маёй першай кніжкі вершаў і занёс яе ў выдавецтва «Мастацкая літаратура». Там працаваў Барадулін і выконваў ролю «шэрага кардынала». Ён патэлефанаваў Караткевічу і параіў не падтрымліваць розную дрэнь. У той момант дрэнню для Барадуліна быў я. Караткевіч мяне супакойваў: «Валодзя, калі будзеш выдаваць свой збор твораў, у дадатак паставіш маю кароткую рэцэнзію-прадмову, якую гэтыя падлюкі “згубілі”...»

Дзядзька Валодзя меў рацыю, ён быў здатны бачыць будучыню. Даўно перагарэла мая злосць на дзядзьку Рыгора, але часам усё ж хочацца прагыркатаць: «Грышка, чорт цябе пабірай!!!»

## 1983. Плёткі

У Рыгора Барадуліна была нейкая малавытлумачальная рэўнасць да ўсіх, хто сябраваў ці быў папросту блізкі з Караткевічам. Пра ўсіх набліжаных да дзядзькі Валодзі людзей Рыгор Іванавіч распаўсюджваў брыдкія плёткі... Казаў, што Караткевічу жонку Валянціну падсунуў Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Ведаючы схільнасць Барадуліна да рызыкоўных жартаў, я не аспрэчваў і не каментаваў яго меркаванне пра цётку Валю. Не каментаваў, бо думаў, што, калі б Барадулін быў жанчынай, ён не толькі ажаніў бы з сабой Караткевіча, але і прымусіў бы яго кінуць піць і курыць.

## 1783. КУБАК

Караткевіч піў каву з вялікага кубка. Можна сказаць, што ён паглынаў каву вялікімі кубкамі. Калі ўсе пілі з маленечкіх парцалянавых філіжанак, дык дзядзька Валодзя – са свайго глінянага «цэбра», куды ўваходзіла цэлая турка. Піць каву з Караткевічам – гэта варыць дзве туркі, усім і яму. Выпіўшы свой «цэбар» кавы, Караткевіч ішоў працаваць.

## 1983. Строі

Караткевіч любіў дарагія строі, белыя кашулі і фацэтныя гальштукі. Яны яго трымалі ў форме. Пасля п’янак-гулянак, пасля банкетаўфуршэтаў, пасля розных бадзянняў, вандровак і падарожжаў Караткевіч доўга спаў. Праспаўшыся, прымаў ледзяны душ, піў каву з перцам, апранаў свежую кашулю, стыльны касцюм, павязваў модны гальштук і сядаў за працоўны стол. За дзень ён мог сваім акуратным дробным почыркам напісаць блізу дваццаці старонак прозы. А ў непрацоўныя дэпрэсіўныя дні Караткевіч соваўся па кватэры ў доўгім лілова-брунатным халаце.

## 1983. Госці

Каго я толькі не прыводзіў да дзядзькі Валодзі… Паэта Алега Бембеля з кнігай пра вынішчэнне беларускай мовы. Мастака Віктара Альшэўскага з жаданнем напісаць партрэт знакамітага літаратара. Таварыша свайго Валодзю Сцепаненку з праблемай прапіскі ў Мінску. Полацкага пісьменніка-пачаткоўца Алега Мінкіна… На Мінкіне ўсё і скончылася.

Мы пілі каву з Караткевічам, і Алег Мінкін, прачытаўшы колькі вершаў, пачаў несці крытыканскую ахінею. Ён так ахайваў савецкі лад, што нагадваў правакатара са спецслужбаў. Вядома, ніякім правакатарам Мінкін не быў, а яго выказванні адносна савецкай рэальнасці былі збольшага праўдзівыя. Адно толькі напружвала: крытыка тагачаснай імперыі зводзілася да аплёўвання творцаў за іх няшчырасць, хцівасць і прыкарытнасць. Караткевічу Алег Мінкін не спадабаўся: «Хлопец, колькі табе гадоў? Табе ўжо трыццаць, а разважаеш ты так, нібыта табе пятнаццаць. Ты прыйшоў у кватэру да незнаёмага чалавека, першы раз прыйшоў, а спрабуеш гаварыць так, нібыта мы з табою даўнія сябры…»

Калі пакрыўджаны Алег сышоў, дзядзька Валодзя папрасіў мяне больш не прыводзіць

да яго такіх неразумных людзей. Мне зрабілася няёмка, не за Алега Мінкіна і яго вершы пра прыкарытную літаратуру, а за тое, што ў бліжэйшы час нікога не змагу пазнаёміць з Караткевічам.

## 1784. Узоры

Уладзімір Караткевіч паводзіў сябе як вялікі французскі пісьменнік XIX стагоддзя. Ён піў каву вялікімі кубкамі і ў вялікай колькасці, як Анарэ дэ Бальзак. Ён пісаў захапляльныя прыгодніцкія гісторыі, як Аляксандр Дзюма і Тэафіль Гацье. Ён навыдумляў гістарычную фантасмагорыю «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», не раўнуючы як Гюстаў Флабэр навыдумляў «Саламбо» ды «Спакушэнне святога Антонія». Караткевіч жыў, піў і пісаў запойна, як у свой час жылі, пілі і пісалі запойна французскія літаратары эпохі рамантызму.

# 1784. РАМАНТЫЗМ

Паэт Уладзімір Караткевіч захапляўся рамантызмам. Ён любіў XIX, наскрозь рамантычнае, стагоддзе, пісаў пра герояў паўстання, якое загарэлася ў 1863-м. У кабінеце Караткевіча над сталом вісеў партрэт паўстанца Кастуся Каліноўскага. Таму многія залічваюць і самога Уладзіміра Караткевіча ў шэрагі рамантыкаў. Гэта памылка, бо паэт Караткевіч належыць да іншага часу і зусім да іншай генерацыі, ён з пакалення постмадэрністаў. Яго наследаванні Артуру Конан Дойлу і Уілкі Колінзу, Аляксандру Дзюма і Вальтэру Скоту – постмадэрнісцкія імправізацыі на тэмы, узнятыя велічнымі рамантыкамі. «Я – беларускі Вальтэр Скот!» – паўжартам казаў сябрам Караткевіч. У яго, як і мусіць быць у постмадэрніста, усё не проста літаратурнае, а яшчэ і тэатральнае, і кінематаграфічнае. Караткевіч – беларускі постконандойл і наш поствальтэрскот. У драматычным часе рамантыкаў рэальнага Каліноўскага асудзілі, павесілі і пахавалі на гары Гедыміна, што ў Вільні. У рамане Караткевіча Кастусь Каліноўскі ўсё яшчэ жыве і ўсё яшчэ змагаецца за сваю Беларусь.

## 1984. Рукапіс

Апошнія гады жыцця Уладзімір Караткевіч адчуваў сябе кепска. Ён нікуды не хадзіў, сядзеў дома, хварэў. Таму, калі ён зайшоў у нашу кватэру з рукапісам кнігі вершаў «Быў. Ёсць. Буду» і папрасіў майго тату занесці папку ў выдавецтва «Мастацкая літаратура», ніхто не здзівіўся. Тата паабяцаў, што цягам тыдня занясе рукапіс.

Праз тыдзень Караткевіч убачыў сваю папку на нашым піяніна і пацікавіўся, чаму тата яшчэ не занёс рукапіс. Той сказаў, што яго паход у выдавецтва адклаўся праз іншыя справы, а калі ёсць пільная патрэба, дык рукапіс у выдавецтва магу занесці і я. І тады Караткевіч папрасіў мяне аднесці рукапіс Міхаілу Дубянецкаму ці Рыгору Барадуліну. Я перадаў вершы Дубянецкаму.

Кніга выйшла пасля смерці дзядзькі Валодзі. Афармленне рабіў найлепшы сябра Караткевіча – Пётр Драчоў. У кнізе шмат фотапартрэтаў аўтара, зробленых Валянцінам Ждановічам. Дырэктар выдавецтва Міхаіл Дубянецкі паспрыяў добраму паліграфічнаму выкананню кнігі. Гартаючы і перачытваючы «Быў. Ёсць. Буду», я з прыемнасцю згадваю і свой зусім маленечкі ўдзел у лёсе выдатнай кнігі.

## 1984. Смерць

«Дайце спакойна памерці!!!» – у тэлефонную слухаўку крычаў Караткевіч. Ён гэта рабіў не раз і не два, ён такое выкрыкваў шматкроць. І ўсе неяк нават прывыклі да такіх выхадак, успрымалі гэта за гіпербалу. А Караткевіч узяў дый памёр на пяцьдзясят чацвёртым годзе жыцця…

## 1984. Апошняе слова

«Пячэ!!!» – крычаў Караткевіч, калі санітары папрасілі мяне дапамагчы ім апусціць насілкі з пятага паверха... Два разы я жыў на адной пляцоўцы з Караткевічам, і абодва разы на пятым паверсе... Насілкі былі цяжкія. А ён усё не супакойваўся. «Пячэ! Пячэ! Пячэ!..» Пякельнасць праступала на твары спакутаванага ад болю дзядзькі Валодзі. Насілкі загрузіліся ў машыну. Разам з санітарамі я паехаў у лякарню. Там я дапамог перагрузіць насілкі на каталку. «Пячэ!» – шаптаў засмяглымі губамі Караткевіч. Гэта апошняе слова, пачутае мной ад яго. Хацелася дапамагчы, хацелася выцягнуць яго з пекла, узяць за руку і выцягнуць. За руку я яго ўзяў, а выцягнуць не выцягнуў.

# 1984. САМАСПАЛЬВАННЕ

Караткевіч спаліў сябе гарэлкай. Шмат хто з нашых паэтаў спальваў сябе алкаголем. Сцяпан Гаўрусёў, Яўген Крупенька, Валодзя Марук, Рыгор Семашкевіч, Міхась Стральцоў, Толя Сыс, Мікола Федзюковіч, Мікола Купрэеў... Пра кожнага з іх і шмат пра каго яшчэ з беларускіх паэтаў можна сказаць нешта падобнае, але сфармуляваўся гэткі змрочны сказ тады, калі я з сумам згадаў апошнія дні Уладзіміра Караткевіча. Ён сам сябе спаліў...

## 1984. МАСКА

Міхаіл Дубянецкі арганізаваў зняцце маскі з твара нябожчыка. І вельмі ганарыўся тым, што паспеў своечасова і аператыўна зняць маску. «Для гісторыі патрэбна пасмяротная маска Караткевіча!» – казаў выдавец Дубянецкі, а я яго не разумеў. У часы татальнага фатаграфавання ды фільмавання хіба патрэбна каму тая пасмяротная маска?

## 1984. Свечачка

Шмат рознага глупства пішуць пра класіка беларускай найноўшай літаратуры Уладзіміра Караткевіча. Стараюся не звяртаць увагі на такія глупствы і не раздражняцца з-за іх. Праўда, не заўсёды атрымліваецца схаваць раздражненне і расчараванне.

Надоечы прачытаў у эклектычных нататках Андрэя Скурко, што нібыта ў працоўным кабінеце Караткевіча пад фотапартрэтам Кастуся Каліноўскага гарэла лампадка. Глупства несусветнае тыражуе Скурко ў глянцаваным часопісе пра гісторыю! Якая лампадка? Нават пад абразамі ў кватэры нашых суседзяў Караткевічаў ніколі не гарэлі лампадкі. Час у Беларусі быў безлампадкавы. Жонка Караткевіча, цётка Валя, працавала ў Акадэміі навук і была членам камуністычнай партыі. Кажу як сведка, які пражыў побач з любімымі Караткевічамі шмат гадоў.

З тых даўніх часоў мне помніцца не лампадка, а свечачка, што гарэла пад партрэтам Караткевіча, ужо нябожчыка, у кватэры Дубянецкіх...

Уладзімір Караткевіч і Міхаіл Дубянецкі належалі да слаўнага пакалення шасцідзясятні-

каў. Акрамя ўсяго слаўнага і выдатнага ў прадстаўнікоў таго пакалення часта і загана мелася: яны шмат пілі і курылі. Выпівалі і пакурвалі ледзь не ўсе. Пілі так многа, што мне, самаму маладому, не раз даручалі праводзіць захмялелых старэйшых мужчын дахаты.

Некалькі разоў я вёў дамоў і выдаўца Дубянецкага. Смерць Караткевіча моцна яго замаркоціла, так моцна, што на дзявяты дзень пасля смерці дзядзькі Валодзі ён узяў лішнюю чарку. Каб нічога кепскага з Дубянецкім не адбылося, я правёў яго ад кватэрных дзвярэй Караткевічаў да ягоных дзвярэй. Па дарозе на свежым летнім начным паветры Міхаіл Фёдаравіч працверазеў і запрасіў мяне ў сваю кватэру, каб паказаць сямейны сакрэт – «алтар» генія, які зрабілі яго дочкі Ірына і Галіна.

На пісьмовым стале ў «алтары» стаяў фотапартрэт дзядзькі Валодзі, ляжалі яго кнігі з аўтографамі, а перад партрэтам на белым сподачку гарэла кароценькая свечачка. «Мае дочкі любяць Уладзіміра Караткевіча. Ты не паверыш, але, калі Караткевічу далі прэмію імя Мележа, яны мне сказалі, што гэта Мележу трэба было даваць прэмію імя Караткевіча...»

## 1985. ПАПУЛЯРНАСЦЬ

Украінскі паэт Максім Стрыха казаў, што вельмі зайздросціць беларусам, якія маюць такога легендарнага літаратара, як Уладзімір Караткевіч. На кнігах Караткевіча будзе выхоўвацца не адно пакаленне беларускіх патрыётаў. Максім так расхвальваў Караткевіча, што мне зрабілася няёмка. Нібыта я не разумеў значнасці яго твораў ці выказваўся пра Караткевіча без патрэбнай павагі. Я мог бы прывесці іншыя прыклады вядомасці і папулярнасці Караткевіча, але і гэтага дастаткова.

## 1985 – 2013. Дубянецкі

Пісьменніку, каб стаць класікам, трэба мець выбітнага выдаўца, які верыць у яго талент і збярэ ды надрукуе большасць з напісанага ім. Уладзіміру Караткевічу, як і шмат каму з беларускіх літаратараў, пашанцавала, калі выдавецтва «Мастацкая літаратура» ўзначаліў Міхаіл Дубянецкі. Караткевіча Дубянецкі цаніў, можна сказаць, што ён яго ставіў значна вышэй за ўсіх тагачасных літаратараў. Менавіта Дубянецкі выдаў кнігай раман Караткевіча «Нельга забыць», які пасля часопіснай публікацыі праляжаў у выдавецкіх шуфлядах дваццаць гадоў. Міхаіл Дубянецкі выдаў у палепшаным аздабленні і дэтэктыў «Чорны замак Альшанскі». Найлепшая кніга паэзіі Уладзіміра Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду» выйшла дзякуючы Дубянецкаму. Першы дзесяцікніжны збор твораў Караткевіча таксама рабіўся пад кіраўніцтвам Міхаіла Дубянецкага.

Тое, што Уладзімір Караткевіч – любімы пісьменнік беларускага народа, вядома ўсім, але без самаахвярнай і шмат у чым рызыкоўнай працы, якую правёў Дубянецкі, гэтая любоў не была б такой шырокай і такой своечасовай. Калі паглядзець на іншых беларускіх пісьменні-

каў, чые імёны ўпісаны ў шэраг нашых класікаў, дык далёка не ўсім пашанцавала з выдаўцом так, як Караткевічу. Свайго выдаўца ўсё яшчэ чакае спадчына Міхася Стральцова, як і спадчына Анатоля Сыса чакае грунтоўнага акадэмічнага выдання з каментарыямі. У мяне няма сумневаў, што Стральцоў і Сыс дачакаюцца сваіх таленавітых і адказных выдаўцоў, як Уладзімір Караткевіч у свой час дачакаўся Дубянецкага.

## 1785. Шэкспір

Апошні аўтарскі зборнік вершаў Уладзіміра Караткевіча, як ты ведаеш, называецца «Быў. Ёсць. Буду». Назвай зборніка стала назва праграмнага верша, дзе ёсць і такія словы:

Быў. Ёсць. Буду.
Таму, што заўжды, як пракляты,
Жыву бяздоннай трывогай,
Таму, што сэрца маё распята...
(...)
За ўсіх, хто крывёю піша
Ў нязгодзе
З рабства подлай дарогай,
Хто за Край Свой Родны, за ўсе Народы
Паўстане нават на Бога...

Можа, маё параўнанне падасца знарочыстым, але ўсё ж я напішу пра яго. Асабіста для мяне «Быў. Ёсць. Буду» перагукваецца з шэкспіраўскім «...любил, люблю, любим». Гэта словы з дваццаць пятага санета, які заканчваецца так:

Но нет угрозы титулам моим
Пожизненным: любил, люблю, любим.

Тут Уільям Шэкспір у перакладзе Самуіла Маршака, а вось і ў перакладзе Уладзіміра Дубоўкі, у якім нават «буду» ўжо ёсць:

Маіх заслуг ніхто ніяк не здыме:
Любіў, люблю і буду век любімы.

## 1988. Крыўдлівасць

Янка Брыль у зацемках пра Караткевіча не абышоў і яго крыўдлівасць: «...Мала сказаўшы пра Валодзеву шчырую натуральную паэтычнасць, прастату і складанасць, дзіцячую схільнасць да смеху, часамі крыўдлівасць, таксама ледзь не дзіцячую, лёгкую ранімасць, што ніколі не затойвалася ў недастойнай помслівасці...»

Самае істотнае ў пераліку Брыля – крыўдлівасць, ці не асноўная рыса ў характары кожнага беларуса. Караткевіч быў страшэнна крыўдлівы. Крыўдлівасць у яго была зусім не дзіцячая, яна была падлеткавая, з гучнымі абурэннямі, лаянкай і жаданнем бясконца спрачацца і даводзіць сваю праўду. Караткевіч ведаў адказы на ўсе пытанні, прынамсі яму так падавалася. Ён казаў ісціну. Нязгодныя сутыкаліся з крыўдай. Блізкія стараліся не злаваць дзядзьку Валодзю і мала ў чым яму пярэчылі.

## 1987. Сказ

«Цёмныя хмары прыгнёту плылі па-над Беларуссю...» – менавіта да такога сказа можна звесці ўсю творчасць Караткевіча. Прынамсі, я так і зрабіў, малюючы комікс паводле аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха». Пісьменнік Кастусь Тарасаў страшэнна абураўся тэкстамі ў тым коміксе. Казаў, што Караткевіч не мог выказвацца так спрошчана. Але чытачы занялі іншую пазіцыю, яны былі на маім баку і раскупілі сотні тысяч намаляванага «Палявання», бо «цёмныя хмары прыгнёту» сапраўды плылі па-над Беларуссю. І пакуль яны будуць плысці, творчасць Караткевіча будзе актуальнай.

## 1997. Асташонак і навелісты

Алесь Асташонак быў перакананы, што аўтары кароткай прозы п’юць значна болей за раманістаў. Сам ён пасля напісання апавядання моцна напіваўся. Казаў, што такім чынам здымае напружанне, што назбіралася ў яго душы за час працы. У гутарцы пра ўзорных аўтараў апавяданняў Алесь заўсёды згадваў Міхася Стральцова і Юрыя Казакова, ён шмат разважаў пра іх цудоўную прозу і ніколі не забываў згадаць пра іх страшэннае п’янства. Калі я казаў, што раманіст Фолкнер і раманіст Караткевіч выпілі не менш за Стральцова і Казакова, Алесь пачынаў злавацца. Ні Караткевіч, ні Фолкнер не ўваходзілі ў пантэон яго літаратурных куміраў. Таму звычайна наша гутарка пра літаратуру на гэтым заканчвалася і пачыналася размова пра нешта іншае – пра кватэры ці пра захапленне распуснымі жанчынамі.

## 1990. Помнік

Каб мне замовілі зрабіць помнік Караткевічу, я б не ляпіў бронзавага чалавека, падобнага да дзядзькі Валодзі, я б зрабіў імклівых коннікаў – паляванне караля Стаха, тое паляванне, што карае здраднікаў Радзімы. Зрэшты, такі своеасаблівы помнік я і зрабіў, пераказаўшы ў форме комікса для нашых дзяцей найлепшую легенду Караткевіча.

## 2004. Легендарнасць

Так супала, што ў часы асноўных змен у нашай сучаснай гісторыі менавіта кнігі Караткевіча дапамагалі ў чорныя гадзіны сумненняў і роспачы. Кожная беларуская сям'я мае яго кнігі. У гэтым сэнсе Караткевічу пашанцавала больш, чым іншым літаратарам. Карыстаючыся сучасным вызначэннем, можна сказаць: Караткевіч – народны пісьменнік. Але, добра ведаючы дзядзьку Валодзю, думаю: яму б не спадабалася такое вызначэнне. Таму я напішу інакш... Уладзімір Караткевіч – легендарны беларускі літаратар.

## 2004. МАРНАТРАЎСТВА

Дзядзька Валодзя змарнаваў шмат сіл і часу на экранізацыі і тэатральныя пастаноўкі сваіх твораў. Яго пакаленне проста згарэла ў кіназалах і на здымачных пляцоўках, як маё пакаленне згарэла на тэлебачанні, а пакаленне маіх дзяцей гарыць ясным полымем у інтэрнэце. У кожнай генерацыі свае забаўкі, свае ловы ветру, сваё марнатраўства часу.

## 2004. ПОСТМАДЭРНІЗМ

Для мяне сам тэкст – рэальнасць. Раманы, вершы, аповесці Уладзіміра Караткевіча – рэальнасць. Дзядзька Валодзя – рэальнасць. Для мяне не існуе гісторыі як асобнай навукі. Ёсць гісторыя літаратуры, гісторыя матэматыкі, гісторыя мастацтва, гісторыя культуры і гісторыя вайны, гэта значыць бескультур’я. Найважнейшым у гісторыях я лічу факты, складзеныя ў храналагічныя табліцы. Чалавек у еўрапейскай цывілізацыі падпарадкаваны ў сваіх паводзінах архітэктурнай сітуацыі, таму літаратурныя стылі ідуць услед за архітэктурнымі. Іх няшмат, і я пералічу: раманскі, готыка, Адраджэнне, маньерызм, барока, ракако, класіцызм, рамантызм, мадэрнізм і постмадэрнізм. Караткевіч, як і ўсе літаратары нашага часу і нашай еўрапейскай культуры, належыць да постмадэрністаў.

## 2004. ЧЫТАЧЫ

У сучасных беларускіх хрэстаматыях па літаратуры шмат выдатных імёнаў і многа няякасных тэкстаў. А ўсё з–за таго, што большасць сусветнай класікі перакладзена кепска. Узровень перакладчыкаў саступае ўзроўню аўтараў настолькі, што Шэкспір чытаецца горш за Крапіву. Каб выправіць абсурднае становішча, варта прыбраць з хрэстаматый перакладную літаратуру, уключаючы Гусоўскага і Баршчэўскага, а дадаць больш тэкстаў Караткевіча і сучасных беларускіх літарататараў. Такім чынам, чытачоў у Караткевіча стане больш, што важна.

# 2004. Працягі

Найцікавейшая рыса літаратурных твораў Уладзіміра Караткевіча – незавершанасць, якая вымагае працягаў, варыянтаў, імправізацый і пераходу ў іншыя жанры мастацтва: у графіку, у тэлевізію, у кіно...

## 2005. ДЫСІДЭНТ

Антысаветчык, дысідэнт, змагар за нейкія каштоўнасці – ідэальная рэч, якой няма ў прыродзе. Як Мікалай Гогаль пісаў: што гэта за пісьменнік, які не можа падмануць цэнзара? Ясна, што Караткевіч падманваў цэнзара. Ясна, што Уладзіміра Сямёнавіча забаранялі. І што ў асяроддзі пісьменнікаў пра тое цудоўна ўсе ведалі. Калі ў цябе нічога не забаранілі – ну які ты пісьменнік?

Назваць Караткевіча дысідэнтам? Я б не называў. Мне слова не падабаецца. Як і савецкім чалавекам. Гэта хутчэй паліталагічны тэрмін, а не з'ява рэальнага жыцця. Дзядзя Валодзя – беларускі пісьменнік. Класік беларускай літаратуры. Прытым унікальны пісьменнік, якога дзеці чытаюць з задавальненнем.

Спытай у мяне, што было незвычайнага ў паводзінах Уладзіміра Караткевіча. Адкажу. Жаданне быць лепшым за ўсіх навокал. Памкненне ў аўтобусе «Лельчыцы – Мінск» ці «Орша – Віцебск» паводзіць сябе як арыстакрат XVIII стагоддзя. Скажаш, наіўна? А мне – падабаецца.

# 2005. Сыс

Сто разоў чуў: «Злы геній!» І пра вялікіх чуў, і пра знакамітых, і пра таленавітых, нават пра злачынцаў са злодзеямі чуў, што і зразумела. Цікава іншае. Чаму не чуваць, каб нехта казаў: «Добры геній!»? Мо ты тое чуў? Але я сумняваюся, каб такое хтось табе казаў. «Добры чалавек», «добры дзядзька», «людзі добрыя», «добры дурань» – гэткага паўсюль шмат. З геніямі інакш. Можа скласціся меркаванне, што геній толькі са зладзействам і звязаны, а як няма зладзейства, дык і геніяльнасці няма. Нават крыху крыўдна робіцца за дабро, якое застаецца без геніяльнасці. Таму я пачаў згадваць геніяў, якіх ведаў асабіста.

Пісьменнік Караткевіч і паэт Сыс, як на мой розум, вартыя таго, каб іх называлі геніяльнымі творцамі. Ці можна іх назваць злымі геніямі? Не, бо яны не былі злымі. Злавацца злаваліся, сварыцца сварыліся, нават біцца біліся, але злымі яны не былі. Праўда, і добрымі іх не назавеш. Словам, людзі як людзі, адно што геніяльныя.

## 2005. Эпігоны

Ці ведаюць геніяльныя пісьменнікі, што яны геніяльныя? Не ўсе... З усіх геніяльных, каго я ведаў асабіста, толькі два паэты ніколі не сумняваліся ва ўласнай абранасці. Гэта Уладзімір Караткевіч і Анатоль Сыс. Яны казалі пра сваю выбітнасць, падкрэслівалі сваю выключнасць, культывавалі сваю яркую непаўторнасць. Сціпласць – не іх грэх. Годнасць і самаўпэўненасць – іх рысы. Часам падобнае самазахапленне выглядала тэатральным і гратэскным, але нават у карыкатурных формах яно заставалася пераканаўчым. Эпігоны Караткевіча і Сыса як не маглі, так і не могуць паўтарыць і нават проста сыграць іх паводзіны. Эпігонам не хапае брутальнасці, якая перапаўняла жыццё Анатоля Сыса, і экстравагантнасці Уладзіміра Караткевіча, які пазіраў на свет рознакаляровымі вачыма.

## 2006. Кніга ўспамінаў

Занёс маці кнігу ўспамінаў пра дзядзьку Валодзю. Праз колькі тыдняў спытаў пра ўражанні. Пачуў, што прачытала ўсё, але мала што падалося цікавым… Павярхоўнае, знешняе, непраўдзівае… У нас, напэўна, свой Караткевіч, а ў іх быў свой. Калі ён заходзіў да нас і казаў: «Ніна, пачастуй мяне каваю!», я варыла ў турцы каву на маленькім агні і думала, што шчаслівае і вялікае жыццё нас усіх чакае наперадзе. А калі я чытала кнігу ўспамінаў, мне падумалася, што маё шчаслівае жыццё было тады і яно засталося ў далёкім мінулым. Жыў Караткевіч, жыў твой тата – мой Слава…»

## 2006. Нядзведскі

Рыгор Барадулін пачуў, як мы – зусім зялёныя паэты-пачаткоўцы – смяёмся са смерці старога выдавецкага графамана. Барадулін не стаў казаць добрых слоў пра графамана, ён расказаў, што ў маладосці разам з Караткевічам і Стральцовым таксама пасміхаўся са смерці старых дурняў. Так было, пакуль не памёр Уладзіслаў Нядзведскі. «Мы працверазелі і зразумелі, што заўтра-пазаўтра прыйдзе і наша чарга выпраўляцца ў лепшы свет. Чаму гэта адбылося менавіта на пахаванні Нядзведскага? Каб жа хто ведаў. Мусіць, з-за таго, што мы ўсе з ім шмат пілі і шмат смяяліся над магіламі кепскіх паэтаў. І з вамі здарыцца нешта падобнае, і вас чакае пахаванне свайго Нядзведскага...»

Прароцтва Барадуліна ўражвала, бо я выдатна помніў вечна захмялелага паэта Нядзведскага. Ён быў падобны на кінематаграфічнага верхаводу з італа-амерыканскай мафіі, такі сабе Аль-Капонэ. Уладзіславу далося ў знакі цяжкае дзяцінства, якое прайшло ў дзіцячым доме. Ён мог за сябе пастаяць у бойцы, але супраць выпіўкі быў зусім слабы. У нашым літаратурным двары на вуліцы Чарнышэўскага Нядзведскі першы купіў сваўму сыну хулахуп. Хлопчык

выдатна круціў на таліі вялікі пластыкавы абруч. Двор быў у захапленні. Паэзію Уладзіслава Нядзведскага я, прызнаюся, ведаю кепска, бо ніколі не захапляўся савецкімі газетнымі рыфмаванкамі. Толькі, каб расказаць пра прароцтва Барадуліна пераканаўча, без паэтычнай цытаты не абысціся. Таму я пашукаў і выбраў чатыры радкі з першай кнігі Уладзіслава Іосіфавіча Нядзведскага «Вясновыя баразны»:

Над полем і абалоннем
Туман белаваты вісне,
Такі, што вазьмі ў далоні —
І шклянку вады націснеш…

Маё пакаленне паэтаў перастала жартаваць і смяяцца над трунамі графаманаў пасля смерці Анатоля Сыса.

## 2007. ЧАС

Час – пашырэнне душы з «тут і цяпер» да «было і будзе». Так можна пераказаць думку Блажэннага Аўгусціна. Такое разуменне часу малапатрэбнае для фізікаў, але яно плённае для паэтаў. І нездарма сваю апошнюю кнігу лірыкі Караткевіч назваў «Быў. Ёсць. Буду». Ён змог пашырыць сваю душу са свайго «тут і цяпер» да нашага «было дый будзе».

## 2012. Дзенісенка і мармуровая калона

Калону ён зрабіў са штучнага мармуру. Ён спец па штучных камянях. Вучыўся ў Грэцыі. Цяпер Беларусь мае майстра па працы са штучнымі камянямі. Калі каму трэба – да яго, да Сяргея Дзенісенкі. Зробіць на самым высокім штучным узроўні. Каб прадэманстраваць узровень, майстра зрабіў калону, пад ёй – база, на ёй – карынфская капітэль. Усё належным чынам выштукавана, і аканты на месцы, і валюты як мае быць закручаны. Цуд!

Дзенісенка заўжды мог зрабіць цуд. У маладосці ён уваходзіў у гурт мастакоў, што займаліся рэвізіяй кубізму. Такія кубізмы, як пісаў той гурт, ніхто не мог напісаць. Фёдар Сарока, Аляксандар Астравух і Сяргей Дзенісенка былі найлепшымі рэвізорамі кубістычнага жывапісу. Караткевічу падабаліся іх палотны. Ён казаў, што яны такія сакавітыя і духмяныя, як разрэзаныя на кавалкі вялізныя беларускія гарбузы. Караткевіч ведаў смак жыцця, таму і павесіў у сваім кабінеце некалькі палотнаў маладых рэвізіяністаў, як цяпер кажуць – постмадэрністаў. Ці паставіў бы Караткевіч у сябе ў кватэры карынфскую калону? Пытанне без адказу...

Дзенісенка сваю калону выставіў у дарагой мэблевай краме. Праз пару дзён вырашыў адве-

даць выстаўлены шэдэўр. Апрануўся ўрачыста, прыйшоў. Ахоўнік і прадаўшчыца новыя. Дзенісенка вазьмі ды спытайся ў іх: «Ці можна набыць калону? Ці можна сустрэцца і пагаманіць з яе аўтарам?» Ахоўнік не даў прадаўшчыцы і слова сказаць, сам усё патлумачыў: «Калона не прадаецца! Кропка. Яна страшэнна дарагая і ўпрыгожвае краму. Мастак, які зрабіў калону, вельмі знакаміты, але даўно памёр!» Дзенісенка знямеў, збялеў і пакінуў краму. Цяпер ён шмат дзе бачыць знакі смерці, нават там, дзе іх яшчэ няма.

## 2012. Кашкурэвіч і «Більярд»

Арлен Кашкурэвіч за сваё доўгае творчае жыццё стварыў шмат прац. Безліч малюнкаў, афортаў, лінарытаў, кніжных ілюстрацый выйшла з-пад рукі тэмпераментнага графіка. З усяго творчага набытку Кашкурэвіча я заўжды вылучаў для сябе гравюру «Більярд». У ёй ёсць нешта ад прозы Генрыха Бёля, ад яго «Більярда а палове на дзясятую». Ёсць суровы стыль шасцідзясятых. Ёсць настрой, які панаваў у старым саюзе сапраўдных беларускіх пісьменнікаў, што некалі стаяў на вуліцы Энгельса ў Мінску. Саюз той быў у доме, дзе партызанкі падарвалі нямецкага акупанта гаўляйтара Кубэ. Не ведаю, якім чынам, але ў простай гравюры «Більярд» прачыталася вялікая і складаная гісторыя Беларусі XX стагоддзя. Прынамсі, для мяне.

Доўгі час я думаў, што толькі для мяне і прачыталася, што толькі для мяне і быў у той гравюры складаны падтэкст. Але, чытаючы ўспаміны Кашкурэвіча пра Уладзіміра Караткевіча, я напаткаў такое: «…Наконт умоўнасці Валодзя быў не надта згодны. І многія мае творы, я адчуваў, ён не зусім прымаў. Хаця яму вельмі падабалася гравюра «Більярд». Ён нават пісаў пра яе. Цікава, што гравюра – матэрыял дастаткова

ўмоўны. У ёй шмат чорнай плоскай плямы, але Валодзю чамусьці падабалася. Ён аднойчы прывёў нейкага сябра да мяне ў майстэрню і папрасіў: “Пакажы нам «Більярд»”. Я паставіў гэты ліст, яны доўга глядзелі, і Валодзя нешта ўсё гаварыў свайму прыяцелю».

Мяне моцна парадаваў той факт, што і Караткевіч выбраў з твораў Арлена Кашкурэвіча адну гравюру, менавіта «Більярд».

## 2012. Спакой

Апошнім часам мне тэлефануюць значна менш, чым раней. Цікаўнасць да кнігі падае, адпаведна – малацікавымі робяцца і тыя, хто ўсё яшчэ піша і выпускае кніжкі. Не наракаю на такі стан рэчаў. Лічу яго прымальным для сябе, бо не хачу быць падобным да пісьменніка Уладзіміра Караткевіча ў яго апошнія гады жыцця.

Тэлефон Караткевіча стаяў недалёка ад дзвярэй, што вялі з кватэры ў пад'езд. Званіў той тэлефон, як і большасць тагачасных тэлефонных апаратаў, гучна, каб было чуваць паўсюль нават у шматпакаёвай кватэры. Такі тэлефон было добра чуваць і на лесвічных пляцоўках. Зарана састарэлы і хворы Караткевіч здымаў слухаўку і гучна размаўляў. Тады ўсе ледзь не крычалі ў слухаўкі, бо перадача сігнала была зусім дрэнная, з нейкімі патрэскваннямі і шарганнямі. Напрыканцы жыцця дзядзька Валодзя часта зрываўся на крык... «Дайце мне спакойна памерці!» – гучала на ўсю яго кватэру і на ўвесь наш пад'езд. Тэлефон званіў і званіў, а ён крычаў і крычаў пра смерць...

Даўно няма Караткевіча. Змяніліся тэлефоны. Іншым зрабілася стаўленне да кнігі і да тых, хто піша тэксты. Свет змяніўся моцна, але я ўсё

яшчэ чую голас Караткевіча, яго патрабаванне спакою, яго крыўду на несправядлівае і мітуслівае наваколле... Не хачу быць крыўдлівым пісьменнікам. І не буду.

## 2012. Язэп

Атрымаў ліст з Ракава ад Язэпа. Піша, каб я знайшоў у сямейным архіве рукапіс верша Караткевіча пра Багрыма. Верш той бацька друкаваў у «Бярозцы» за 1990 год. Рукапіс я не знайшоў...

## 2012. Другаснасць

З чалавекам выбітным заўсёды цяжка. У яго свае погляды на рэчы, і часцяком яны не супадаюць з агульнапрынятымі. Грамадства спрабуе дамовіцца з талентам, але гэта можа і не атрымацца. Тады грамадства і дзяржава пачынаюць культывацыю другасных асоб, якія нечым падобныя да чалавека зорнага. У Англіі замест рэвалюцыйных «Бітлоў» раскручвалі мяшчанскі «Аазіс» і дзясяткі да яго падобных ансамблікаў; у Францыі замест непрадказальнай Эдзіт Піяф на сцэну выпусцілі лялечную Мірэй Мацьё; у Беларусі геніяльных «Песняроў» падмянялі «Верасамі».

Падобныя падмены першаснага на эпігонскае робяцца і ў літаратуры. Замест эпатажнага, катэгарычнага да тэатральнай хамаватасці, гранічна шчырага ў сваёй рамантычнай беларушчыне Уладзіміра Караткевіча чытачам спрабавалі і спрабуюць падсоўваць другарадную літаратуру. Маўляў, Караткевіч у нас не адзін, у нас цэлы шэраг пісьменнікаў, што пісалі і пішуць гістарычныя раманы і п’есы. Чытачам прапаноўваецца проза Кастуся Тарасава і Валянціны Коўтун, Аляксея Якімовіча і Вітаўта Чаропкі, Вольгі Іпатавай і Таісы Бондар… Вакол

Караткевіча выбудоўваецца цэлы мур з эпігонскіх твораў, якія і блізка не дасягалі і не дасягаюць узроўню класіка.

Здавалася б, чытач павінен сам разабрацца і выбраць лепшае. Але чытачу, як і слухачу, асабліва няма часу на рознае разбіральніцтва. «Верасы» – яны ж амаль «Песняры», а гэты «Аазіс» зусім блізка падышоў да «Бітлоў», нехта нават скажа, што Мацьё прыгажэйшая за Піяф. Толькі ліхтар ніколі не стане зоркай. Ніколі. А чалавеку, калі ён сапраўды чалавек, часам трэба ўздымаць галаў і любавацца высокімі і недасяжнымі зорамі.

# 2012. Музей

У музей трапляе той чалавек, які і пасля сваёй смерці можа аплачваць камунальныя паслугі. Творы Караткевіча выдаюцца і перавыдаюцца, канечне, дзяржава і выдаўцы тое-сёе нават сплачваюць спадкаемцам дзядзькі Валодзі, але і на аплату музея сёе-тое застаецца.

# 2013. Стол

У бацькоў на лецішчы захоўваўся стол Уладзіміра Караткевіча. За гэтым сталом ён напісаў усе свае асноўныя творы. Толькі напрыканцы жыцця Валянціна Браніславаўна купіла мужу новы вялікі стол. Выкінуць стары было шкада. Караткевічы папрасілі забраць стол на нашу дачу. Там ён з таго часу і стаяў. Бацька мой любіў за ім пісаць свае дзённікі.

## 2013. «Ў»

Зрабіў я добрую справу – перавёз стол Уладзіміра Караткевіча з бацькоўскага лецішча ў мінскую кнігарню «Ў». Цяпер у старога пісьмовага стала пачалося новае сталічнае жыццё.

# 2013. Абурэнні

Зранку патэлефанавала жонка, яна заўсёды звоніць, калі на цягніку набліжаецца да беларуска-літоўскай мяжы. Я галіўся, і было нязручна размаўляць, бо не хацелася, каб тэлефон упэцкаўся ў мыльны гель. Не паспеў я дагаліцца, як зноў нехта патэлефанаваў. Жаночы голас спытаў: «Чырвоная, 5 – 30?» У мяне іншы адрас, падобны, але іншы. Жанчына памылілася, і я меў поўнае права абурыцца і насварыцца на яе. Так бы і зрабіў, каб не згадаў вечныя абурэнні Уладзіміра Караткевіча.

Калі нехта блытаў нумар і трапляў да пісьменніка, той абураўся і крычаў на ўвесь пад'езд. У тыя часы ўваходныя дзверы ў кватэру нават дэрмацінам не аббівалі. Абурэнні Караткевіча гучалі велічна і магутна. У мяне тыя натацыі з чартыханнямі выклікалі ўсмешку. Ну памыліўся чалавек, што ж тут так хвалявацца і лаяцца! Згадаўшы Караткевіча, я супакоіўся, раздражненне прапала, і я сказаў няўважлівай жанчыне проста: «Не...»

## 2013. Успамінальная хлусня

Хто толькі не панапісваў успамінаў пра Уладзіміра Караткевіча, як кажуць, і жук і жаба! Раней прыдуманая пра Караткевіча дурота мяне моцна раздражняла. Яна і цяпер выклікае агіду, але я ўжо не злуюся, а пасміхаюся з падобных успамінаў.

Чытаю ў кніжцы ўспамінаў такое ад Лёніка: «...Радасна адказаў Караткевіч, схаваў пісталет, а мне між тым павучальна шапнуў: “У прысутнасці сакратара ЦК неяк няёмка страляць з пісталета...”» Сапраўды робіцца няёмка за чалавека, які ў кнізе ўспамінаў друкуе прыдуманую дуроту пра пісталет.

Няёмка робіцца і ад прачытання гэткай жа хлусні ад Сцёпкі: «Шмат разоў бачыў Караткевіча, сядзеў з ім за адным сталом, гаварылі пра featureрознае, курылі, выпівалі... Былі магчымасці сфатаграфавацца з ім, але жадання не было. Дзіўна, але зусім не шкадую, што тады страціў магчымасць, не падмітусіўся...»

Сцёпка мітуслівы, мітусіўся тады і зараз мітусіцца, не раўнуючы апалонік у слоіку. Нічога ў тым кепскага няма, бо некаторыя сур’ёзныя людзі перакананыя, што ўсё наша жыццё – мітусня мітусні ды ловы ветрыку. Няёмкасць

узнікае ад сцвярджэння «выпівалі». З такімі, як Сцёпка, Караткевіч не выпіваў. Класік не выпіваў са Сцёпкам не таму, што лічыў яго горшым за сябе. Не. У апошнія гады жыцця Уладзімір Караткевіч піў адзін, а ўсім казаў, што не п’е зусім. Нават на Новы год ён не піў за святочным сталом, а сыходзіў выпіць у свой кабінет. Выпіўка напрыканцы жыцця стала для Караткевіча цяжарам, хваробай, наканаваннем і ганебнай таямніцай. Прачытаўшы тут «выпівалі», я пасміхнуўся.

## 2015. ЭСЭ

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» рыхтуецца дванаццаты том збору твораў Уладзіміра Караткевіча. У ім будзе эсэ пра Мсціслаўе. Пільныя рэдактары і цэнзары ў першай публікацыі павыкрэслівалі з эсэ шмат розных прозвішчаў. Зараз руплівыя ўкладальнікі і выдаўцы іх пацяху аднаўляюць. У кнігу пра наш усходні казачны горад вернуцца рэстаўратары: Валодзя Ракіцкі, Юра Маліноўскі і Мікола Залатуха. Вярнуся і я.

Некалі Караткевіч мне сказаў, каб не моцна перажываў, калі цэнзар нешта здымае: «Будзеш выдаваць збор твораў – і ўсё вернеш». Шкада, што дзядзька Валодзя не ведаў пра тое, як я дапамагу з рэстаўрацыяй менавіта яго тэкстаў. Ведаць не ведаў, але, мусіць, здагадваўся і спадзяваўся...

## 2016. Якасць

Каб нешта вартае напісаць, трэба мець адметную якасць. Можна быць натуральна рэвалюцыйным, як Анатоль Сыс, можна быць крыху наіўным, як Янка Маўр, а можна ўсё жыццё заставацца рамантычным падлеткам, як Уладзімір Караткевіч. У яго была душа падлетка, якая прагла прыгод. У творах Караткевіча ёсць юнацкая свежасць, яна і вабіць.

# 2017. НАДПІСЫ

Фальклярыст Ніл (нінеЛ) Сымонавіч Гілевіч выдаў сам сябе ў шматтомным зборы твораў. З дваццаці трох тамоў я набыў адзін, з дзённікамі. Вырашыў пацікавіцца, што панапісваў былы сусед па пад'ездзе. Чытаю... «Я дарыў яму [Уладзіміру Караткевічу] свае зборнікі з цёплымі надпісамі. А ён мне? Ніводнага ніколі».

Во яно як, Уладзімір Караткевіч не адарыў Гілевіча сваімі кнігамі. Шчодры на падарункі дзядзька Валодзя не для ўсіх быў шчодры. Мне асабіста Караткевіч перадаў шмат сваіх кніг і мноства альбомаў па мастацтве, а Гілевічу, як высвятляецца, – пашкадаваў. Такі факт.

## 2018. КУКСО

Апошнім часам я стаў купляць і чытаць часопіс «Мастацтва». Нешта ў ім пачало мяняцца, і што цікава – змены пайшлі не ў горшы, а ў лепшы бок. Сярод займальнага і запамінальнага была там гутарка мастака-карыкатурыста Канстанціна Куксо з літаратарам Дзмітрыем Падбярэзскім. Журналісту патрэбны водгукі ды рэзанансы, таму Падбярэзскі папытаўся: «Ці здаралася так, што некаму твая праца рэзка не падабалася і на той глебе ўзнікалі скандалы?» На што Куксо адказаў: «У Мінску такое здаралася. У Маскве – ніколі. У Мінску мяне чамусьці лічылі вельмі злым карыкатурыстам. Неяк намаляваў Кастуся Кірэенку, і той шарж выйшаў у "Вячэрнім Мінску". Паэт раззлаваўся настолькі, што хацеў у суд падаваць. Праўда, нехта разумны патлумачыў яму, што гэткім чынам ён зробіць мастаку рэкламу. Жахліва пакрыўдзіўся Караткевіч. Тэлефанаваў, крычаў, што праломіць мне галаву... А вось Іван Чыгрынаў мае шаржы вельмі любіў».

Магу запэўніць чытачоў «Мастацтва», што Канстанцін Куксо кажа праўду. Караткевіч сапраўды моцна пакрыўдзіўся на тую карыкатуру. Ён бачыў сябе прыгожым і дасканалым рыца-

рам, што моцна не супадала з яго сапраўдным абліччам. Карыкатурыст намаляваў чалавека, вельмі падобнага да Караткевіча рэальнага, ну і атрымаў пагрозу. Добра, што Куксо атрымаў некалькі пагроз у Мінску – і ў Маскве цяпер паводзіць сябе больш абачліва і асцярожна, бо там могуць і ўмеюць не толькі пагражаць. Ведаем мы гэтую Маскву.

## 2018. Любімыя

Казаць пра чужых жанчын, пра жонак і каханак складана і рызыкоўна. Яшчэ больш складана расказваць пра любімых жанчын такога вядомага чалавека, як Уладзімір Караткевіч. Але ўсё ж паспрабую, бо некалькі разоў чуў нахабную хлусню на гэтую тэму. Ілгалі людзі вядомыя. Казалі пра донжуанства Караткевіча, якога, на мой погляд, было досыць мала. Людзі падманвалі і не чырванелі, што для мяне і не дзіўна.

Цяпер да праўды...

У дзядзькі Валодзі было пяць самых любімых жанчын, якія адыгралі ў яго жыцці вялікую ролю.

Найперш гэта маці – Надзея Васільеўна. Валодзя Караткевіч усё жыццё заставаўся такім сабе маміным сынам. Любіў яе пяшчотна і вельмі цяжка перажываў яе смерць.

Другая жанчына, што моцна паўплывала на Караткевіча, – Ніна Молева. Яна выкладала гісторыю мастацтва ў маскоўскім Літаратурным інстытуце. Караткевіч яе кахаў. Прысвячаў ёй вершы. Нават раман напісаў пра сваё вялікае каханне, раман «Нельга забыць».

Другая муза Уладзіміра Караткевіча – Валя, яго жонка. Яна натхняла пісаць запатрабава-

ную чытачамі прозу ў форме вострасюжэтнага дэтэктыва.

Дабрабыт і фінансы Караткевіча моцна залежалі ад яго маскоўскай перакладчыцы і сяброўкі Валянціны Шчадрыной. Яна шмат паспрыяла поспеху Караткевіча ў розных савецкіх і замежных выдавецтвах. Кажучы кіношнай мовай, яна была ягоным прадзюсерам.

Калі Караткевіч страціў маці і жонку, ім апекавалася сястра Наталля.

Менавіта гэтыя пяць разумных жанчын зрабілі ўсё, каб беларуская літаратура займела яшчэ аднаго класіка.

## 2018. Канон

Уладзімір Караткевіч – класік беларускай літаратуры, і гэта неаспрэчны факт. Толькі класічнасць Караткевіча адрозніваецца ад класічнасці нашых іншых кананізаваных літаратараў. І ў першую чаргу тым, што творчасць Караткевіча кананізавалі самі беларусы. І зрабілі гэта без дапамогі Масквы, Варшавы ці Берліна. У стварэнні і кананізацыі іншых нашых хрэстаматыйных пісьменнікаў удзельнічалі знешнія сілы, прычым актыўна. Караткевіча беларусы выбралі і кананізавалі самі, кананізавалі насуперак знешнім уплывам. Таму з постаці Караткевіча і пачынаецца новы адлік у нашым літаратурным жыцці. Толькі пасля гэтага пачалася кананізацыя літаратурнай спадчыны Міхася Стральцова і Анатоля Сыса. Берлін, Варшава і Масква спрабуюць замяніць іх іншымі імёнамі, але гісторыя з кананізацыяй Караткевіча паказала, што час уплываў на беларускі літаратурны канон застаўся ў мінулым.

## 2020. Чэхаў

Мой даўні знаёмы Алесь Бяляцкі напісаў у дзённіку, што моцна незадаволены «Аўстрыйскімі авіялініямі», бо ў венскім аэрапорце яму давялося лішнія дзве гадзіны чакаць пасадкі. Звычайны бытавы запіс мяне здзівіў тым, што яго напісаў менавіта Алесь, які ў цяжкіх умовах адсядзеў у турме некалькі гадоў. Прачытаўшы пра абурэнне авіялініямі, я згадаў дзядзьку Валодзю Караткевіча, з яго любімым назіраннем са спадчыны доктара Антона Чэхава, што лепей дзве гадзіны ў далёкім стэпе пад снегам і ветрам чакаць на маленечкай чыгуначнай станцыі цягнік, чым пяць хвілін дома ў цяпле і на канапе чакаць першую чарку гарэлкі…

## 2021. Глупствы

Некалі збіраў я розныя глупствы, напісаныя і расказаныя пра Уладзіміра Караткевіча. Сярод іх быў аповед пра гермафрадытызм дзядзькі Валодзі, які расказваў былы паталагаанатам. Мелася показка пра глыбокую веру Караткевіча ў Бога і пра гарэнне лампадкі пад абразом, што вісеў у яго кватэры. Пачыналася тая калекцыя неверагодных глупстваў версіяй пра смерць Караткевіча ад вялікай колькасці вострых прадуктаў накшталт аджыкі ды гарчыцы, якімі нібыта злоўжываў Уладзімір Сямёнавіч. Я кінуў збіраць гэтыя дурноты, бо іх колькасць хутка расла, няспынна множылася. А больш за ўсё мяне бянтэжыла тое, што хлусілі людзі вядомыя. Яны падманвалі, усведамляючы лжывасць сваіх «успамінаў». Напэўна, ілгуны верылі, што ствараюць правільны і патрэбны нашчадкам вобраз ідэальнага Караткевіча.

За лгунамі пайшлі графаманістыя паўтаральнікі хлусні... Пра гэтую брыдкую з’яву аднойчы вельмі разумна сказала мая маці, і я не палянуюся паўтарыць: «У іх свой Караткевіч, а ў нас свой». Наш Караткевіч разумны, вясёлы і натуральны. Такім ён быў, ёсць і будзе, прынамсі для мяне.

## 2022. Шчодрасць

Шчодрых людзей вакол мяне заўсёды шмат, іх значна больш, чым сквапных і скупых. Ні бальзакаўскага Габсека, ні гогалеўскага Плюшкіна я на жыццёвых шляхах не сустракаў. Скнары сустракаліся, але не эталонныя, не такія, каб пра іх аповесці пісаць. Праўда, тут я пра шчодрасць вырашыў расказаць...

Шмат хто са знаёмцаў казаў, што паэт Алег Мінкін сквапны, а я ў яго кватэры цэлы тыдзень пражыў, калі трэба было перахавацца. Мінкін не сквапны.

Мой аднакурснік Міша Нацэўскі неяк ахвяраваў мне свой пашпарт. Тым разам усё скончылася добра і я не стаў Міхаілам Нацэўскім, але такая шчодрасць не забываецца.

Добра помніцца шчодрасць чалавека выбітнага. Таму пару слоў я скажу пра шчодрасць Уладзіміра Караткевіча. У нашай кватэры захоўваўся ключ ад кватэры Караткевіча. Часам мне трэба было паліваць там кветкі. Дзядзька Валодзя дазваляў мне браць у ягонай вялікай бібліятэцы кнігі і часопісы. Зазвычай я чытаў часопіс «Амерыка». Браў я (вядома, з дазволу!) і баракальных драўляных анёлаў, каб пісаць з імі нацюрморты. Часопісы і анёлаў я браў на

час. А вось альбомы па мастацтве Караткевіч дарыў мне назаўжды. Альбомаў дваццаць падарыў. Усе яны мелі ягоны подпіс з пажаданнем. Альбомы я паперадорваў, бо шмат каму са знаёмцаў хацелася мець аўтограф любімага пісьменніка. Вялікім падарункам стаў і працоўны стол Караткевіча. Стол класіка я ахвяраваў кнігарні; ахвяраваў, бо навучыўся ў Караткевіча шчодрасці.

Творца павінен ахвяраваць, раздаваць, адорваць; інакш ён – скнара Габсек, а не шчодры творца.

## 2024. Упэўненасць

Большасць людзей не любіць рызыкаваць. Калі чалавек не ведае дакладны і разгорнуты адказ на тваё пытанне, ён адказваць не стане. Ён не адкажа нават у тым выпадку, калі адказ ведае, але не ўпэўнены ў яго стопрацэнтнай правільнасці. Ёсць, праўда, і такія, хто, ведаючы толькі якіх дзесяць працэнтаў ад патрэбнага, можа адказваць так пераканаўча і ўпэўнена, што і ценю сумневу ў цябе не будзе ў абмежаванасці ведаў палымянага прамоўцы. Такім быў Уладзімір Караткевіч. Выглядала так, што ён ведае ўсё пра ўсё на свеце. Нават пуставатую драбязу ён мог падаць як найкаштоўнейшы дыямент. Гэта і называецца адным словам – талент.

## 2024. ВОДАРЫ КЛАСІЧНЫХ ТЭКСТАЎ

Пра музычнасць тэкстаў, пра іх рытмы і мелодыі сказана шмат, а я скажу пра водары, якія чую, калі чытаю арыгіналы класікаў.

Ад апавяданняў Вячаслава Адамчыка сыходзіць пах летніх траў. Стральцоўская проза дорыць водары свежаскошанага сена. Эсэістыка Канстанціна Паўстоўскага пахне дарагім адэкалонам; дарэчы, падобны водар ідзе і ад жывапісу Міхаіла Урубеля. Нататкі Янкі Брыля аддаюць гаспадарчым мылам; гэта вельмі здаровы дух чысціні, між іншым. Дзягцярным мылам пахне аўтабіяграфічная кніга «Пялёсткі» Уладзіміра Дубоўкі. Проза Якуба Коласа дыхае на мяне сырой зямлёй. Некаторыя апавяданні Кузьмы Чорнага смачна пахнуць хлебазаводам. Ад твораў Янкі Купалы ляціць гарачы дух вогнішча. Ад лепшага ў прозе Даніїла Хармса сыходзіць эфірны халадок. Самае пазнавальнае ў Змітрака Бядулі пахне цёплай заціркай. Калі прыслухацца да водараў, што сыходзяць ад вершаў Уладзіміра Караткевіча, дык можна пачуць пахі малдаўскага каньяку і папяроснага дыму.

# ЗМЕСТ

1963. Каменьчыкі ........ 5
1963. Пташнікаў і кукішкі ........ 6
1964. Першы подзвіг ........ 7
1964. Стральцова і пеньюар ........ 8
1965. Дом № 7 ........ 10
1965. Дробныя манеты ........ 15
1965. «КОФЕ» ........ 16
1968. Дом, двор і смеццявозка ........ 18
196... Сабака ........ 20
1970. Прыпынак ........ 21
1973. Шчырасць ........ 23
1973. Сад ........ 24
1976. Захопленасць ........ 25
1976. Крэслы ........ 26
1977. Слова ........ 27
1977. Чартаніяна ........ 29
1979. Чорт ........ 30
1979. Хаты ........ 31
1979. Правал ........ 32
1979. Міцкевіч і Колас ........ 33
1980. Хоку ........ 34
1980. «Ногі...» ........ 36

1980. Лякарня ........................................................ 37
1980. Чорны перац ................................................ 38
1980. Жыдліцкі ...................................................... 39
1980. Быкаў і Мехаў .............................................. 40
1980. Старажытны свет ......................................... 41
198… Дэтэктывы .................................................... 43
1980. Пляшка гарэлкі ........................................... 44
1980. Танк ............................................................... 46
1980. Выказванне ................................................... 47
1981. Сеткі з бульбай ............................................ 48
1981. Хованкі ........................................................ 49
1981. Парады ......................................................... 51
1981. Швейкі .......................................................... 52
1981. Цацкі ............................................................ 53
1982. Мой першы зборнік вершаў ........................ 54
1982. Стадыён ........................................................ 55
1982. Акутагава і труп ........................................... 57
1982. Раман ............................................................ 59
1982. Архіў ............................................................. 60
1982. Таямніцы ....................................................... 61
1982. Казкі ............................................................. 62
1983. Страшная казка ............................................ 63
1983. Карыкатурнасць ........................................... 65
198… Барадулін ......................................................... 66
1983. Плёткі ............................................................ 68

1983. Кубак ........................................................ 69
1983. Строі ......................................................... 70
1983. Госці ......................................................... 71
1984. Узоры ......................................................... 73
1984. Рамантызм ..................................................... 74
1984. Рукапіс ....................................................... 75
1984. Смерць ........................................................ 76
1984. Апошняе слова ................................................. 77
1984. Самаспальванне ................................................ 78
1984. Маска ......................................................... 79
1984. Свечачка ...................................................... 80
1985. Папулярнасць .................................................. 82
1985 – 2013. Дубянецкі .............................................. 83
1985. Шэкспір ....................................................... 85
1988. Крыўдлівасць .................................................. 86
1989. Сказ .......................................................... 87
1990. Асташонак і навелісты ......................................... 88
1990. Помнік ........................................................ 89
2004. Легендарнасць ................................................. 90
2004. Марнатраўства ................................................. 91
2004. Постмадэрнізм ................................................. 92
2004. Чытачы ........................................................ 93
2004. Працягі ....................................................... 94
2005. Дысідэнт ...................................................... 95
2005. Сыс ........................................................... 96

2005. Эпігоны ........................................ 97
2006. Кніга ўспамінаў ........................................ 98
2006. Нядзведскі ........................................ 99
2007. Час ........................................ 101
2012. Дзенісенка і мармуровая калона ........................................ 102
2012. Кашкурэвіч і «Більярд» ........................................ 104
2012. Спакой ........................................ 106
2012. Язэп ........................................ 108
2012. Другаснасць ........................................ 109
2012. Музей ........................................ 111
2013. Стол ........................................ 112
2013. «Ў» ........................................ 113
2013. Абурэнні ........................................ 114
2013. Успамінальная хлусня ........................................ 115
2015. Эсэ ........................................ 117
2016. Якасць ........................................ 118
2017. Надпісы ........................................ 119
2018. Куксо ........................................ 120
2018. Любімыя ........................................ 122
2018. Канон ........................................ 124
2020. Чэхаў ........................................ 125
2021. Глупствы ........................................ 126
2022. Шчодрасць ........................................ 127
2024. Упэўненасць ........................................ 129
2024. Водары класічных тэкстаў ........................................ 130

**Глобус**, Адам

Г54 Наш сусед Караткевіч : словы пра выбітнага літаратара Уладзіміра Караткевіча / Адам Глобус. — Мінск : Выдавец Раман Цымбераў, 2025. — 136 с.

ISBN 978-985-7334-21-6.

У кожнага народа ёсць свой вялікі пісьменнік, ёсць свае класікі літаратуры, ёсць паэты, якім дзяржава ставіць помнікі і ў гонар якіх называе вуліцы і станцыі метро, а ёсць яшчэ і любімыя паэты і пісьменнікі. Любімых выбірае сабе народ. Так беларусы выбралі сабе любімага паэта — Максіма Багдановіча і любімага пісьменніка — Уладзіміра Караткевіча. У кнізе «Наш сусед Караткевіч. Словы пра выбітнага літаратара Уладзіміра Караткевіча» Адам Глобус сабраў свае нататкі пра пісьменніка, з якім яму пашанцавала жыць па суседстве, на адной лесвічнай пляцоўцы.

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

УДК 821.161.3-94
ББК 84(4Беи)-44

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Адам Глобус**

# НАШ СУСЕД КАРАТКЕВІЧ

## *Словы пра выбітнага літаратара Уладзіміра Караткевіча*

Рэдактар і карэктар *Алена Нанас.*
Дызайн вокладкі *Міраслава Адамчыка.*
Вёрстка *Зміцера Коласа*.
Адказны за выпуск *Раман Цымбераў*.




Падпісана ў друк 27.01.2025. Фармат 60×90 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ул.-выд. арк. 2,31. Ум. друк. арк. 4,25.
Наклад 99 асобнікаў. Замова № 148

Выдавец індывідуальны прадпрымальнік Раман Цымбераў.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка
друкаваных выданняў 1/530 ад 30.05.2018.
Пр-т Ракасоўскага, д. 85, кв. 47, 220085, г. Мінск.

Вытворчае даччынае ўнітарнае прадпрыемства
«Друкарня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка
друкаваных выданняў № 2/18 ад 26.11.2013.
Пл. Свабоды, 23-94, 220030, г. Минск.
ЛП №38200000006490 от 12.08.2013